# РУНЬ

газэта беларусаў Літвы

13 сьнежня 1999 №28 кошт 1 літ




# КАЛЯДЫ: ПОЗІРК У МІНУЛАЕ

Нашая сям'я была каталіцкая, але ніхто з дарослых, нават бабуня Міла (Эмілія Сівіцкая), ня быў практыкуючым католікам, не хадзіў у касьцёл на споведзь. Тым ня менш, дух хрысь-ціянскае маралі панаваў у сям'і, і так гадавалі дзяцей. Паводле традыцыі сьвяткавалі такія сьвяты, як Вялікдзень і Каляды.

Падрыхтоўка да Калядаў пачыналася недзе ў сярэдзіне кастрычніка. У тыя часы не куплялі цацак на ёлку, хаця ў продажы былі бліскучыя шкляныя шарыкі ды іншыя ўпрыгожаньні. Лічылася гонарам рабіць ёлачныя цацкі самім: тут выяўляліся й фантазія, і розныя таленты. У кнігарні Станіслава Станкевіча («Кнігара») на вул. Вастрабрамскай рог вул. Субач (цяпер на мейсцы кнігарні пляцоўка для аўтамабіляў) куплялі ўсё патрэбнае. Памяшканьне кнігарні было доўгае, цемнаватае, але купіць там можна было ня толькі кніжкі й канцтавары, але й розныя матар'ялы, патрэбныя для вырабу цацак. Мы куплялі глянцаватую каляровую паперу, бебулку, тонкую й карбаваную, залатыя й срэбныя зорачкі, «анёльскія валасы», белае штучнае бліскучае валакно, фарбы, клей. Вечарамі, калі лекцыі былі падрыхтаваныя, а вячэра зьедзеная, вялікі стол быў у нашай дыспазыцыі. Мой, на восем гадоў старэйшы, брат Тонік і я браліся за работу: з глянцаватай паперы або з саломкі й складзенай веерам тонкай бібулкі клеілі рознакаляровыя ланцугі-гірлянды. Зь вялікіх макавак рабілі збанкі, збаночкі, вазы, размалёўвалі іх залатой ды срэбнай фарбай. З «выдмушак» (пустыя яечныя скарлупкі) таксама рабілі збаночкі, аздобленыя арнамэнтам з бліскучай паперы. Тонік добра рысаваў і з выдумкай рабіў прыгожыя цікавыя галоўкі маркізаў, блазнаў, мурынаў.

Ёлку ставілі 24 сьнежня. Яна была высокая, да столі, на яе, апрача нашых цацак, вешалі невялічкія чырвоныя яблычкі, пазалочаныя валоскія гарэхі, цукеркі. Да Калядаў у хаце ўсё было вымытае, вычышчанае, на вокнах віселі накрухмаленыя фіранкі, ад іх пахла сьвежасьцю. Водар сьвежасьці, хвоі, печыва напаўняў хату.

Калі на небе паказвалася першая зорка, сядалі пры сьвяточным стале. Стол быў накрыты белым абрусом, пад які клалі сена, як сымбаль, што Хрыстос радзіўся ў стайні. Спачатку дзяліліся аплаткаю, жадаючы адно аднаму здароўя, шчасьця, посьпехаў, радасьці. На Куцьцю ўсе стравы былі посныя. У нас быў звычайна боршч вараны з грыбамі, а да яго «вушкі» – маленькія, смажаныя ў алеі піражочкі, надзеваныя грыбамі. «Вушкі» рабілі толькі раз на год, на Куцьцю, хаця мы часта пыталіся, чаму іх нельга зрабіць у нейкі іншы дзень. Пасьля елі селядца ў розным выглядзе ды іншыя рыбныя стравы. Рыбу куплялі вазёрную або рачную, марской рыбы ў даваеннай Польшчы было мала дый была яна дарагая. Асабліва смачная была смажаная да хрумсту дробная стынка ці селява. Да рыбы былі розныя салаты з гароднiны: бульбы, буракоў, морквы, капусты, фасолі. А завяршалася Куцьця салодкімі стравамі: быў кісель з журавінаў з макавым малаком, кампот з сушанай садавіны (з свайго саду) й, нарэшце, цёрты мак з гарэхамі ды разынкамі. Церці мак была справа няпростая й нялёгкая, гэта рабілі мужчыны. Намочаны на ноч мак адцэджвалі ды цёрлі ў макотры, глінянай пасудзіне з шурпатымі сьценкамі. Цёрлі драўляным валкам. Усяго на Куцьцю было 12 страваў, і, калі ўсяго зьесьці хаця трохі, дык можна сказаць словамі Коласа: «І так, бывала, наясіся, Што хоць на пупіку круціся».

Пасьля Куцьці запальвалі сьвечкі на ёлцы, бэнгальскія агні. Аглядалі падарункі, якія таксама былі зробленыя сваімі рукамі: цацкі з дрэва, мэблі для лялькі, сьмешныя фігуркі, вышытыя ці вязаныя кручком сурвэткі, каўнерыкі, шалікі, шапачкі. Кожны, хто рабіў падарунак, укладаў у працу ня толькі ўменьне, але й сэрца, ахвоту зрабіць прыемнасьць сябрам і блізкім. А гэта больш, чым купленыя, часта насьпех, падарункі. Мы, дзеці, атрымоўвалі ў падарунак беларускія кніжкі, а часта і ўкраінскія, каторыя прысылалася маёй маці, рэдактару «Заранкі». На сьвяточны вечар пяялі «Калядкі», беларускія й польскія.

На першы дзень сьвятаў, 25 сьнежня, быў сьвяточны абед. Галоўнай была якая-небудзь смачная мясная страва. Прыходзілі часам суседзі, або бацькі ехалі да некага ў госьці. Да мяне прыходзілі мае сябры, суседзкія дзеці, а я хадзіла да іх, каб паглядзець, чыя ёлка прыгажэйшая. Але мне здавалася, што наша ёсьць самая прыгожая – мы ж уклалі ў ейны ўбор столькі працы!

Ёлка стаяла да Трох Каралёў, 6 студзеня. Паступова зь яе зьнікалі яблычкі, цукеркі, пернікі, гарэхі. А якая была радасьць, калі, здымаючы зь ёлкі цацкі, мы знаходзілі недзе ў схроне паміж галінкамі забытую цукерку ці гарэх.

На Каляды беларусы Вільні ладзілі для нашых дзяцей ёлку, часам у гімназіі, часам у іншым мейсцы. Ставілі прыгожа ўвабраную ёлку, давалі падарункі, вельмі сьціплыя, бо, як заўсёды, не ставала грошы. На канцэрце меншыя дзеці дэклямавалі вершы. Вось на адным такім калядным вечары, а было мне тады 5 ці 6 гадоў, і я чытала верш, пачатак якога помню й сягоньня:

*У лясочку, між кустамі,*
*Дзе для сонца быў прастор,*
*Падняліся над імхамі*
*Баравік і мухамор...*

Ад той пары прайшло шмат часу. Была вайна, цяжкія паваенныя гады. Нашая сям'я заўсёды трымалася калядных традыцыяў. Толькі вось сям'я рабілася ўсё меншая: памерла ў 1944 г. бабуня Міла, прапаў бязь вестак брат, у 1948 г. памёр мой тата. Асталіся мы з мамай. І, седзячы на Куцьцю пры сьвяточным стале, думкамі варочаліся ў мінулае, да нашых дарагіх, што пакінулі нас...

Але й да сёньня для мяне самае прыгожае з усіх сьвятаў – Каляды. Сьвята зьяднаньня, надзеі, сьвята, калі забываюцца крыўды й жаль, і цяпло агеньчыкаў на ёлцы саграе чалавечыя сэрцы.

**Галіна Войцік**



Здымак Дзяніса Раманюка

***Мой погляд на***

# Вільню

Кожная рэч каштуе роўна столькі, колькі за яе заплаціў... Можна скрыгатаць зубамі:»З-з-забралі, гады!» Можна распускаць нюні: «Ах, духоўная сталіца, ах, калыска адраджэньня!» Гэта ўсё пустое. Калі ты на яе не капейкі не патраціў, калі нічога не зрабіў дзеля яе, — ты ніколі не скажаш: «Мая дарагая...»

Дык вось я да чаго, дружа, падпішыся на газэту «Рунь». Твая мазольная капейка дасьць магчымасьць «Руні» зазелянець, стаць трывалым асяродкам беларушчыны ў Вільні. Твой ліст, навіна, заўвага, дасланая ў рэдакцыю, зробіць газэту больш цікавай. Зямляк, падпішыся й напішы нам.

І яшчэ. Распавядаюць пра шчасьлівы выпадак, які падарыў Беларусі Максіма Багдановіча. Ягоная цётка зь Пінску выпісала яму ў Яраслаўль газэту «Наша Ніва». Максім прачытаў яе й стаўся тым, кім стаўся.

Дружа, падпішыся сам і падпішы газэту для свайго сябра, знаёмага, сваяка. Ён ацэніць твой сюрпрыз-падарунак і налета падпішацца сам!

**Сяржук Вітушка**

# Лукашызм як ракавая пухліна фашызму



Засталося ўжо няшмат часу й чалавецтва будзе разьвітвацца з апошнім стагодзьдзем другога тысячагодзьдзя новай эры. Адыходзячае стагодзьдзе сталася стагодзьдзем многіх навуковых адкрыцьцяў і тэхнічных вынаходстваў, каторыя ўзброілі чалавека ўнікальнымі электроннымі прыборамі да вылічальнай тэхнікай, ядзернай энэргіяй і спутнікамі, адкрылі таямніцы невядомых дагэтуль хімічных рэакцыяў і біялягічных працэсаў, што, у сваю чаргу, падняло разьвіцьцё вытворчых сілаў на якасна новы ўзровень...

XX ст. адзначанае й масавым стварэньнем новых незалежных нацыянальных дзяржаваў. У ліку першых зь іх варта назваць Нарвегію, якая ў 1905 г. скасавала вунію з Швэцыяй ды сталася незалежнай. Новая хваля стварэньня незалежных краінаў супала з распадам Савецкага Саюзу...

Галоўным пабуджальным матывам стварэньня нацыянальных дзяржаваў зьяўляецца тое, што толькі дзяржаўнасьць забясьпечвае рашэньне ў поўнай меры такіх супольнанацыянальных задачаў, як абарона сваёй тэрыторыі й абарона нацыянальных інтарэсаў на міжнароднай арэне, недатыкальнасьць правоў асобы й ейнай маёмасьці, рацыянальнае выкарыстаньне прыродна-эканамічных і людзкіх рэсурсаў на карысьць насельніцтва дадзенай тэрыторыі, арганізацыя сацыяльнага забясьпячэньня людзей, а таксама, што ня менш важнае, атрыманьне адукацыі на роднай мове й разьвіцьцё нацыянальнай культуры й мовы, распрацоўку й прыняцьце законаў з улікам нацыянальных традыцыяў і складзенай празь вякі псыхалёгіі карэннага народу.

У шматнацыянальнай дзяржаве заўсёды ёсьць тытульная нацыя, каторая хоча падпарадкаваць сабе, або проста паглынуць іншыя нацыі. Прыкладам гэтага быў Савецкі Саюз, дзе ў нацыянальным пытаньні на першы плян высоўваўся нейкі агульны для ўсіх савецкіх народаў «сацыялістычны зьмест», каторы зь цягам часу пачаў патрабаваць і агульнай формы адлюстраваньня. На практыцы гэтае прывяло да таго, што многія народы, у тым ліку й беларускі, пачалі страчваць сваю родную мову, нацыянальныя традыцыі ды звычаі.

Такім чынам, без забясьпечаньня праву народу на стварэньне сваёй нацыянальнай дзяржавы, нельга ў поўнай меры забясьпечыць правы й свабоды чалавека, хаця апошнія й зьяўляюцца шчытом ад замахаў на асобу самой дзяржавай. Таму распад СССР на шэраг нацыянальных дзяржаваў трэба лічыць прагрэсыўнай зьявай.

У стварэньні й захаваньні сваёй нацыянальнай дзяржавы зацікаўленыя ўсе прадстаўнікі нацыі, як тыя, хто жывуць на ейнай тэрыторыі, так і тыя, хто жывуць па-за ейнымі межамі, бо яна, як родная маці, павінная клапаціцца пра забясьпечаньне правоў, свабодаў і матар'яльнага дабрабыту ўсім сваім сынам і дочкам, незалежна ад месца іхняга пражываньня. Гэта вельмі добра бачнае на прыкладзе дзяржавы Ізраіль, каторую кожны жыд, дзе б ён ня быў, лічыць сваёй, а яна, у сваю чаргу, зьяўляецца апірышчам для ўсіх жыдоў.

Адыходзячае стагодзьдзе застанецца ў гісторыі й як стагодзьдзе буйных прыродных бедстваў: навадненьняў, разбуральных гураганаў, лясных пажараў, землятрусаў, — паказаўшы тым самым слабасьць чалавецтва перад прыроднай стыхіяй. Да прыродных катаклізмаў дадаюцца інспіраваныя самім чалавекам. І тут нельга не згадаць тыя незьлічоныя бедствы, што абрынуліся на чалавецтва ў зьвязку з аварыяй на Чарнобыльскай АЭС. Найбольш ад гэтае катастрофы пацярпела Рэспубліка Беларусь.

XX ст. — гэта стагодзьдзе двух сусьветных войнаў, падчас каторых усе дасягненьні навукі й тэхнікі былі пастаўленыя не на задаваленьне патрэбаў людзей, а на іхняе вынішчэньне, што сьведчыць аб праявах дзікунства й вар'яцтва многіх палітыкаў. Больш за тое, у XX ст. чалавецтва спарадзіла, бадай, самыя экстрэмісцкія за ўсю гісторыю дыктатарскія рэжымы: бальшавізм і фашызм, якія зьяўляюцца люстраным адбіткам адно аднога. Характарызуючы У. Леніна, як стваральніка камуністычнай ідэалёгіі й заснавальніка камуністычнай партыі, вялікі рускі філёзаф Н. Бярдзяеў пісаў: «Ленін — антыгуманіст, як і антыдэмакрат. У гэтым ён ёсьць чалавек новае эпохі, ня толькі камуністычных, але й фашысцкіх пераваротаў. Ленінізм ёсьць «вождизм» новага тыпу, ён вылучае правадыра масаў, каторы атрымлівае дыктатарскую ўладу. Гэта будуць пераймальнікі Мусаліні й Гітлер. Сталін будзе закончаным тыпам правадыра-дыктатара. Ленінізм ня ёсьць, зразумела, фашызм, але сталінізм ужо вельмі падобны да фашызму».

І, сапраўды, скрайні бальшавізм, сталінізм, ад фашызму адрозьніваецца толькі тое, што першы вёў сваё змаганьне пад лёзунгам гіпэртрафіраванага клясавага інтэрнацыяналізму, а другі быў наскрозь прапітаны гіпэртрафіраваным нацыяналізмам — нацызмам. А ў стратэгіі й тактыцы яны ёсьць блізьняты. Ободва ставілі ў якасьці сваёй стратэгічнай мэты сусьветнае панаваньне: бальшавізм праз экспарт сусьветнай камуністычнай рэвалюцыі, а фашызм праз стварэньне Трэцяга рэйху. Галоўным жа сродкам і адзін, і другі лічылі барацьбу. Барацьба й разьвязаньне войнаў — у гэтым уся сутнасьць і бальшавізму, і фашызму. Памятаеце, што адказаў адзін з прашчураў бальшавізму К. Маркс сваёй дачцэ, у чым ён бачыць сваё шчасьце? — «У барацьбе!» А як называецца галоўны твор аднаго з самых галоўных заснавальнікаў фашызму Адольфа Гітлера? — «Мая барацьба»!

Беларусі на поўніцу давялося зьведаць «шчасьце» як бальшавізму, гэтак і фашызму. Сьведчаньнем таму зьяўляюцца разьмешчаныя амаль побач «Курапаты», дзе ў гады савецкай улады супрацоўнікамі НКУС было зьнішчана больш 200 тыс. чалавек, і «Трасьцянец», дзе былі арганізаваны лягер сьмерці фашыстамі...

Супольнымі для бальшавізму й фашызму зьяўляюцца мілітарызацыя эканомікі, прывязданьне ўсіх бакоў чалавечага жыцьця да загадзя прадпісаных стандартаў, нецярплівасьць да іншадумцаў і перабольшваньне ролі правадыра, каторы, паводле меркаваньня Гітлера, нараджаецца «ў краіне толькі раз за вельмі вялікі адцінак часу». Будучы скрайнімі плынямі палітычнай думкі й грамадзкага разьвіцьця, бальшавізм і фашызм абавязкова павінныя спачатку сыйсьціся й, пакуль не набралі моцы, падзяліць паміж сабою сфэры ўплыву. Вынікам гэтага сталіся змова Гітлера й Сталіна й падпісаньне сумнавядомага «Пакту Молатава-Рыбэнтропа». Аднак, ставячы перад сабою адну тую самую мэту — сусьветнае панаваньне — бальшавізм і фашызм абавязкова павінныя былі сутыкнуцца паміж сабою, што й адбылося ў гады Другой сусьветнай вайны. Абедзьве плыні павінныя былі рана ці позна загінуць, бо як першая, гэтак і другая былі рэакцыйныя ды імкнуліся павярнуць кола гісторыі назад, вялі да масавага вынішчэньня найбольш адукаванай і духова разьвітай часткі чалавецтва, для чаго выкарыстоўвалі ўсю магутнасьць навукова-тэхнічнага прагрэсу. Усё гэта рабіла іх нежыцьцяздольнымі й падымала супраць іх усё сьвядомае чалавецтва.

Але, будучы ракавай пухлінаю на целе чалавецтва, абодва дыктатарскія рэжымы імкнуліся пусьціць мэтастазы. І, на жаль, ім гэтае ўдалося зрабіць. Скажам, бальшавізм праявіўся ня толькі ў Савецкім Саюзе ў выглядзе ленінішчыны й сталіншчыны, але і ў выглядзе хаджэрызму ў Альбаніі, ракашызму ў Вэнгрыі, дыктатуры Чаўшэску ў Румыніі, Кім Ір Сэна ў Карэі, палпотаўшчыны ў Кампучыі ды ў шэрагу іншых краінаў.

Сёньня дыктатарскі рэжым пачаў адраджацца ў выглядзе новых мэтастазаў, адной зь якіх зьяўляецца й лукашызм, створаны ў Беларусі. Лукашызм уяўляе зь сябе сумесь фашызму, сталіншчыны й махровага папулізму. Аднак, паводле сваёй сутнасьці ён найбольш мае цягу да фашызму. Нездарма 3 лістапада 1995 г. Лукашэнка ў інтэрвію нямецкай газэце «Хандэльсблат» сказаў: «Нямецкі парадак фармаваўся стагодзьдзямі. Пры Гітлеры гэтае фармаваньне дасягнула найвышэйшай кропкі. Гэта тое, што адпавядае нашаму разуменьню прэзыдэнцкай рэспублікі й ролі ў ёй прэзыдэнта». І далей Лукашэнка ўдакладніў: «Гітлер сфармаваў моцную Германію, дзякуючы моцнай прэзыдэнцкай улады... Гэта былі трыццатыя гады, час вялікага крызысу ў Эўропе, а Германія паднялася, дзякуючы моцнай уладзе, дзякуючы таму, што нацыя змагла кансалідавацца й аб'яднацца вакол лідэра».

Усе далейшыя крокі Лукашэнкі пацьвярджаюць шчырасьць сказаных ім у той дзень словаў. Стопрацэнтовая манапалізацыя электронных СМІ і больш чым на 90% накладаў газэтаў і часопісаў; паралізацыя работы абранага народам Вярхоўнага Савету й стварэньне замест яго абсалютна бяспраўнага г. зв. Нацыянальнага Сабраньня кшталту існуючага падчас фашызму ў Гішпаніі фашысцкага Савету; падпарадкаваньне ўсіх судоў; стварэньне магутнага паліцыйнага апарату; утварэньне антыканстытуцыйнага ваенізаванага падразьдзяленьня й наданьне яму права ўрывацца без суда й санкцыі пракурора ў кожнае памяшканьне з мэтай праявядзеньня вобыску, а таксама затрыманьне й заключэньне кожнага чалавека пад варту; безкантрольнае выкарыстоўваньне значнай, гэтак сама бескантрольна назапашваемай сумы грашовых сродкаў; увядзеньне па-сутнасьці забароны на правядзеньне мітынгаў і дэманстрацыяў грамадзянаў; жорсткі кантроль за дзейнасьцю палітычных і грамадзкіх арганізацыяў, нецярпімасьць да іншадумцаў; — вось далёка ня поўны пералік рысаў, што характэрызуюць лукашызм як разнавіднасьць дыктатарскага рэжыму, каторы ўсталяваны ў Беларусі пасьля зьдзяйсьненьня Лукашэнкам у лістападзе 1996 г. (пад выглядам г. зв. «рэфэрэндуму»), дзяржаўнага перавароту.

На практыцы ўсё гэтае выліваецца ў катастрафічнае зьбядненьне насельніцтва, самавольства чыноўнікаў, міліцыі ды іншых сілавых структураў, заключэньні ў турмы й зьнікненьні няўгодных рэжыму людзей. Сёньня сярод палітзьняволеных ёсьць чатыры дэпутаты Вярхоўнага Савету РБ: Уладзімір Кудзінаў, Андрэй Клімаў, Валеры Шчукін і Анатолі Лябедзька, былы міністар с/г Васілі Лявонаў, Двойчы герой сацыялістычнай працы, заслужаны работнік с/г Беларусі, 75-гадовы Васілі Старавойтаў, старшыня Сацыял-дэмакратычнай партыі Мікола Статкевіч. Бясьсьледна зьніклі былая старшыня Нацбанку РБ Тамара Віньнікава, былы міністар унутраных справаў Юры Захаранка, першы намесьнік старшыні Вярхоўнага Савету РБ Віктар Ганчар, бізнэсмэн Анатолі Красоўскі ды інш. Аб жорсткасьці рэжыму сьведчаць і апошнія факты: узятых на дэманстрацыі 17 кастрычніка людзей везьлі ў машыне, зьбівалі й прымушалі сьпяваць.

Для апраўданьня сваіх дзеяньняў рэжым выкарыстоўвае ўжо апрабіраваныя бальшавізмам мэтады: хлусьню, ліслівасьць, паклёпы. Дарэчы, на пэрыядычна праводзімых рэжымам вайсковых і фізкультурных парадах, маніфестацыях партрэты Лукашэнкі выносяцца побач з партрэтамі Сталіна, пры гэтым адзначу, што і ў асобных гарадох Расеі таксама.

Сёньня Лукашэнка й ягоныя памагатыя ўзялі курс на адраджэньне Савецкага Саюзу зь ягонымі парадкамі казарменнага сацыялізму, падмуркам для якога, згодна іхняму меркаваньню, павінная стацца аб'яднаньне Беларусі й Расейскай Фэдэрацыі ў адзіную дзяржаву. І самае страшнае заключаецца ў тым, што гэтыя маньякальныя замашкі Лукашэнкі падтрымоўваюцца многімі палітыкамі Расеі, і перадусім — кіраўніцтвам КПРФ. Пракамуністычная Дума вітае Лукашэнку стоячы. Больш за тое, Менск зрабіўся месцам прыцягненьня экстрэмісцкіх элемэнтаў зь іншых краінаў. Вядома, што Лукашэнка адзіны з кіраўнікоў гэткага рангу наведаў і выказаў падтрымку Мілошавічу. Нельга не задумацца, ці паехаў бы ён аказваць дапамогу Мілошавічу з пустымі рукамі, калі б у яго ў руках была ядзерная зброя?

Ва ўгоду расейскім шавіністам правячы ў Беларусі рэжым праводзіць над беларускім народам па-сутнасьці духоўны генацыд: у рэспубліцы, напрыклад, няма ніводнай ВНУ, якая б працавала на бел. мове, у Менску няма сёньня ніводнай паўнавартаснай бел. школы (засталіся ў некаторых школах толькі асобныя клясы). Празь перасьлед і цкаваньне з палітычных матываў напрацягу доўгага часу пражывае ў Хельсінках вядомы ўсяму сьвету бел. пісьменьнік Васіль Быкаў. Ня так даўно праз тое самае не вярнуўся ў Беларусь з Польшчы старшыня Саюза Пісьменьнікаў Беларусі, выдатны наш паэт Уладзімір Някляеў. Пераводзяць свае капіталы за мяжу й ад'яжджаюць здольныя бел. бізнэсмэны. А тымчасам беларускую навуку культуру й асьвету курыруе віцэ-прэм'ер, расейскі палкоўнік Уладзімір Замяталін. Другім віцэ-прэм'ерам і міністрам замежных справаў з'яўляецца палкоўнік ФСБ Урал Латыпаў. Расейскія генэралы ачольваюць у Беларусі міністэрства абароны й міністэрства ўнутраных справаў. Беларусам рэжым не давярае праз боязьнь, што ягоныя злачынныя ўказы й дэкрэты ня будуць выконвацца.

Такім чынам, Расеяй зьдзяйсьняецца па-сутнасьці простая агрэсія й гвалтоўная інкарпарацыя Беларусі ў Расейскую Фэдэрацыю. Калі гэтая інкарпарацыя адбудзецца, на тэрыторыі былога СССР напэўна зьявіцца яшчэ адна «крывавая кропка», бо беларусы будуць адстойваць сваё права на захаваньне незалежнай нацыянальнай дзяржавы ўсімі даступнымі сродкамі, у тым ліку й ваеннымі, калі іх да гэтага змусяць...

Сёньня Лукашэнка, нягледзячы на ўсе свае папуліцкія здольнасьці, ня мае ўжо падтрымкі ў большасьці народу Беларусі. Калі б ён яе меў (як пра тое гавораць ягоныя саўдзельнікі ды высока аплачаныя ім журналісты), ён пайшоў бы на выбары й не баяўся б ніякіх дэманстрацыяў і мітынгаў, дапусьціў бы да дзяржаўных

# ў Эўропе

СМІ сваіх апанэнтаў. Наадварот, падзеі 17 кастрычніка паказалі, што народ ужо ня хочыць, дакладней, ня можа трываць таго цяжкога становішча, у якое яго саштурхнуў дыктатарскі рэжым Лукашэнкі. І ў гэтым народным супраціве таксама залог таго, што рана ці позна лукашызм асуджаны на пагібель. Ён, як і ягоныя прашчуры – бальшавізм і фашызм – таксама зьяўляецца нежыцьцяздольным, бо галоўнымі спосабамі ягонага існаваньня таксама зьяўляюцца барацьба й разбурэньне, а не стваральная дзейнасьць. Прычым, лукашызм пакуль што вядзе барацьбу з сваім народам, гэта значыць робіць тое, што рабілі на першапачатковай стадыі бальшавізм і фашызм: зьнішчалі іншадумцаў і небясьпечных для сябе апанэнтаў.

Вельмі важна ня даць рэцэдыву дыктатарскага рэжыму разрасьціся і ўчыніць злачынствы перад чалавецтвам. Справа ў тым, што лукашызм карыстаецца сёньня ня толькі спачуваньнем і маральнай падтрымкаю многіх расейскіх палітыкаў, але й матар'яльна падсілкоўваецца за кошт Расеі, дзе шавіністычныя настроі настолькі разьвітыя, што чым больш ахвяраў у Чачні, тым вышэй узьнімаецца палітычны рэйтынг расейскага прэм'ер-міністра Пуціна, каторы зьяўляецца адным з самых актыўных удзельнікаў новай бойні супраць народу гэтай маленькай свабодалюбнай рэспублікі. Атрымоўваючы ад заходніх краінаў крэдыты нібыта на дэмакратычныя рэформы, Расея адначасна атрымоўвае магчымасьць шчодра дзяліцца імі з рэжымам Лукашэнкі. Напрыклад, Парыскі клюб сьпісаў з Расеі пазыкі на 4,2 млрд. дал., і той самы Пуцін, прыехаўшы ў Менск, падарыў рэжыму Лукашэнку 300 млн. дал. Зьвярніце ўвагу, перадаў самаўласна, без пастановы Думы. Добра, каб на падтрымку бел. народу, а то ж на далейшае ўмацаваньне дыктатуры.

Падкормлены ў такі спосаб лукашысцкі рэжым мае магчымасьць падтрымліваць, хоць і ў занядбаным становішчы, вытворчасьць і сяк-так выплачваць мінімум пэнсіяў, стыпэндыяў, утрымоўваць агромністы карны апарат... А калі да гэтага дадаць яшчэ й сацыяльную дэмагогію, майстрам каторай зьяўляецца Лукашэнка й падабраныя ды адмыслова вывучаныя гэтага паліттрэгеры, дык і сам Лукашэнка робіцца жаданым госьцем у кожным расейскім рэгіёне, што, уласна, яму й трэба дзеля задавальненьня ўладалюбных амбіцыяў – зрабіцца прэзыдэнтам аб'яднанай дзяржавы.

Але ня трэба забывацца на тое, што на тэрыторыі Расеі маецца ядзерная зброя, і, ня дай Бог, яна патрапіць у рукі гэткага псыхалягічна неўраўнаважанага, эпілiптоіднага тыпу дыктатара, якім зьяўляецца Лукашэнка. Бяда, каторую сёньня перажывае бел. народ, можа стацца трагедыяй перадусім для Эўропы. Нагадаю, што сёлета летам праходзілі сумесныя расейска-беларускія штабныя вучэньні, падчас якіх адпрацоўвалася заняцьце расейскімі войскамі Латвіі й Эстоніі, а беларускімі – Літвы. Усё гэта рабілася, на шчасьце, на тапаграфічных мапах. Але ўсё гэтае наводзіць на цяжкі роздум. Менавіта таму, пакуль ня позна, мы, беларускія палітыкі дэмакратычнага кшталту, імкнемся як мага даходлівей і шырэй паказаць, што ўсё тое, чым жывуць і што робяць Лукашэнка й ягоныя паплечнікі, найперш у Расеі, зьяўляецца напрыканцы XX ст. супрацьнатуральным і зусім не небясьпечным ня толькі для Беларусі, але й для народаў Эўропы. Захад павінны разумець, што незалежнасьць Беларусі й вяртаньне яе на дэмакратычны шлях разьвіцьця – гэта бясьпечнасьць нашых суседзяў і Эўропы ў цэлым.

**Сямён Шарэцкі**

## Прээзнтацыя

кнігі Уладзіміра Арлова й Генадзя Сагановіча **«Дзесяць вякоў беларускай гісторыі (862 — 1918)»** адбылася 9 лістапада на катэдры беларусыстыкі Віленскага пэдагагічнга ўнівэрсытэту. Апрача навучэнцаў і выкладчыкаў катэдры на імпрэзе былі школьнікі зь Беларускай сярэдняй школы імя Ф. Скарыны, каторым перадусім і адрасаваная кніга згаданых аўтараў, ды некаторыя прадстаўнікі віленскай бел. інтэлігенцыі. Багата й з густам аздобленая кніга У. Арлова ды Г. Сагановіча павінная, на наш погляд, стацца выдатным дапаможнікам у вывучэньні айчыннай гісторыі для беларускай моладзі.

**А.М.**

## Выстава братоў Покладаў

віленскіх беларускіх мастакоў, адкрылася 9 лістапада ва ўтульнай галерэі «Амацінінку». На адкрыцьцё прыйшлі віленскія мастакі й мастацтвазнаўцы, чыноўнікі Дэпартамэнту нацыянальнасьцяў, літоўскія СМІ, прадстаўнікі беларускіх суполак Вільні, госьці зь беларускага пасольства ў Літве ды зь Менску. Новыя, арыгінальныя выкананьнем і неардынарнай задумы, карціны братоў Покладаў былі з непрыхаванай цікавасьцю сустрэтыя наведнікамі галерэі. Праз увесь час агледзінаў у залі галерэі палаў гарачы камін, што надавала імпэзе асаблівы калярыт.

**А.М.**

## Выстава Юрыя Якавенкі



гродзенскага мастака, адкрылася назаўтра, 10 лістапада, у Польскай галерэі. Шмат якія працы мастака здаліся нам надзвычай арыгінальнымі. Яны, безумоўна, маглі б аздобіць шмат якія творы клясыкаў сусьветнай літаратуры.

**А.М.**

## Сэмінар

«Супрацоўніцтва беларускіх журналістаў у галіне абароны іхніх правоў» адбыўся 12-13 лістапада ў канфэрэнцзалі гатэлю «Нерынга» ў Вільні. На сэмінары прысутнічалі як прадстаўнікі незалежных, гэтак і дзяржаўных бел. СМІ. Спадзяемся, што гэтая, арганізаваная Беларускай асацыяцыяй журналістаў, імпрэза, на якой чыталіся зьмястоўныя даклады высокіх прафэсыяналаў у сфэры журналістыкі ды міжнародных экспэртаў у справе абароны журналісцкіх правоў, пайшла на карысьць абодвум крылам сёньняшняй беларускай журналістыкі.

**А.М.**

## Багаслужба ў Вострай Браме

перад нашай нацыянальнай сьвятыньню, абразам Маткі Боскай Вастрабрамскай, была праведзеная 17 ліс-тапада. На ёй прысутнічалі шматлікія вернікі-беларусы. Яскравую казань, якая западала ў сэрца кожнаму, казаў па-беларуску кс. Ян Шуткевіч.

**Юры Гіль**

## Пікет

У абарону гісторыка-краязнаўчага музэю «Засьцянковая хатка» ў Вашунаве Докшыцкага раёну правяло ТБМ Віленскага краю. Арганізаваў пікет старшыня таварыства Юры Гіль, каторы на ўласнай скуры пакаштаваў «смаку» лукашэнкаўскага дыктатарскага рэжыму, пра што мы пісалі ў папярэднім нумары «Руні» (артыкул «Мамелюкі або прыгоды Гіля ў Беларусі»). На пікеце ягоныя ўдзельнікі далі таксама нэгатыўную ацэнку «Дамове аб саюзе Расеі й Беларусі», тэкст якой быў публічна спалены перад Консульствам РБ у Літве.

**Юры Гіль**

## Падарожжа за Балтыйскае мора

напачатку лістапада зьдзейснілі вучні й настаўнікі Віленскай бел. сярэдняй школы імя Ф. Скарыны. Мы пабывалі ў Швэцыі. Запрасілі нас туды вучні й пэдагогі гімназіі г. Хасленхолм, якія ўлетку гасьцілі ў нас у Вільні. Захоплівала дух на пароме, каторы даставіў нас з польскай Гдыні ў швэдзкі порт Карлскрон. Швэцыя сустрэла нас зыркімі агнямі й спакоем. Мы былі ў гэтай краіне 4 дні, пазнаёміліся з спакойнымі, упэўненымі, уважлівымі швэдамі, каторыя вельмі любяць сваю краіну. У Хэсленхолмскай гімназіі вучыцца больш за 700 дзяцей. Яны разам з настаўнікамі былі нашымі гідамі ў экалягічным парку ды ў іхняй гімназіі, па клясах, надзвычай добра абсталяваных. Нам было прыемна, што нашыя гадунцы зьдзівілі швэдзкіх пэдагогаў добрым веданьнем ангельскае мовы. Мы пабывалі на лекцыях, у старадаўнім замку, ва ўжо згаданым экалягічным парку, наведалі музэй Лінэя, бачылі ў горадзе Мальме мост, што неўзабаве злучыць Швэцыю з Даніяй.

**Валянціна Кавальчук**

## 10-годзьдзе дзейнасьці

шырыка адзначыў напрыканцы лістападу Дэпартамэнт нацыянальнасьцяў і эміграцыі. У Вільні з гэтай нагоды адбылася мастацкая выстава братоў Алеся й Сяргея Покладаў, у школе імя Скарыны — пленэр беларускай народнай творчасьці. 25 лістапада для кіраўнікоў ды актывістаў нацыянальных суполак Літвы была праведзеная канфэрэнцыя ў бібліятэцы імя Міцкевіча. Вечарам у Нацыянальным тэатры адбыўся заключны этап сьвяткаваньняў. Выступіў Прэзытэнт ЛР Адамкус, Старшыня Сойму Ландзбэргіс, кіраўнік Дэпартамэнту Мотузас. Па ўрачыстай частцы адбыўся канцэрт нацменшасьцяў, у якім прынялі ўдзел і вучні нашае школы.

**Павал Саўчанка**

## Помнік Каліноўскаму

быў адкрыты 19 лістапада ў Салечніках. Галоўным арганізатарам імпрэзы й спонсарам быў Беларускі культурны цэнтар Салечніцкага раёну, каторы ачольвае Пётра Малафей. Рупны ўдзел ва ўшанаваньні памяці К. Каліноўскага ўзялі гэтаксама Згуртаваньне беларускіх грамадзкіх арганізацыяў у Літве, Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь ды пасольства РБ у Літве. Усе прысутныя адзначылі, што помнік слаўнаму герою барацьбы супраць расейскага царызму, ачольніку паўстаньня ў



*Вэтэран беларускага нацыянальна-вызвольнага руху Аляксей Анішчык ды аўтар помніка, вядомы скульптар Валяр,ян Янушкевіч перад помнікам Каліноўскаму.*

Беларусі й Літве 1863 году выкананы зь вялікім мастацкім густам.

**Валяньціна Грыневіч**

## Пляны дзейнасьці Згуртаваньня беларускіх грамадзкіх арганізацыяў у Літве на 2000 год

**14 студзеня.** Калядна-навагодняя вечарына.
**4 лютага.** Зьезд ЗБГА. Абраньне новага кіраўніцтва.
**Канец лютага.** Вечарына прысьвечаная 4-годзьдзю дзейнасьці Беларускай суполкі ў Шаўляі.
**26 сакавіка.** Сьвяткаваньне 82-ой гадавіны абвешчаньня БНР.
**9 траўня.** Радаўніца.
**25 траўня.** Апошні званок у школе імя Ф. Скарыны.
**5 чэрвеня.** Дзень Эўфрасіньні Полацкай – Дзень беларусаў Літвы.
**Канец чэрвеня.** Купальле.
**Ліпень.** Гастролі ў Літве Менскага тэатру Я. Купалы.
**1 верасьня.** Першы званок у школе імя Ф. Скарыны.
**Другі тыдзень верасьня.** Вечар бел. песьні ў Салечніках.
**Канец лістапада.** 80-годзьдзе Слуцкага Збройнага Чыну.

# Лінгвацыд або выцісьненьне

*Працяг. Пачатак у N 27.*

**3. Забарона мовы**

Варта прыгадаць асобныя эпізоды з традыцыі лінгвацыду ў Беларусі.

**1870 г.** Прызначаны з Расеі ўладыка Віктар Садкоўскі на Слуцкім епархіяльным саборы (на тэрыторыі Рэчы Паспалітай) пагражаў сьвятарам, якія ўжывалі замест царкоўна-славянскай мовы ў сваіх цэрквах «літоўскую» (так тады часам называлі бел. мову): «Я вас скорэню, зьнішчу, штоб і языка вашого проклятого літовского і вас самих не было; я вас у зсылкі парассылаю альбо ў салдаты пааддаю, а сваіх з-за кардону панаважу!»

**1839 г.** Мара В. Садкоўскага споўнілася. У царквах урэшце была забароненая казань на «літоўскай» мове. Герархі расейскай праваслаўнай царквы, не даючы магчымасьці карыстацца бел. моваю ў багаслужбе, пераконвалі вернікаў у тым, што нашая мова для Божай службы не прыдатная. І гэта сьцьвярджалася тымі, хто добра ведаў, што «ўсялякая ўлада ад Бога». Хіба не ўсялякая мова ад Бога?

**1867 г.** Як супрацьвага пашырэньню друкаваньня беларускіх кніжак, малітоўнікаў, казаньняў лацінскім шрыфтам, што наплывалі з Польшчы й Галічыны й карысталіся попытам сярод насельніцтва, царскія ўлады забаранілі друк лацінкаю, хоць менавіта ёю ў XVIII — першай палове XIX ст.ст. друкаваліся бел. кніжкі.

**1921-1924 гг.** У Польскай дзяржаве ліквідаваліся бел. народныя школы, што паўсталі з 1915 г. падчас акупацыі Заходняй Беларусі кайзэраўскімі войскамі (дагэтуль у Беларусі, што ўваходзіла ў склад Расейскае імпэрыі, бел. школ не было). Калі ў 1918 г. у Заходняй Беларусі налічвалася больш за 350 бел. школаў, дык у 1922 г. польскія ўлады пакінулі зь іх толькі 47, у 1923/24 навучальным годзе — 29, у 1924/25 — не засталося аніводнай. 31 ліпеня 1924 г. польскі ўрад С. Грабскага выдаў моўны закон, згодна якога магчымасьць адкрываць бел. школы рэзка абмяжоўваліся.

**1938 г.** У Савецкім Саюзе прынятая «Пастанова пра абавязковае вывучэньне расейскай мовы ў нацыянальных рэспубліках СССР».

**1958 г.** Таксама выйшла палажэньне пра вывучэньне другой мовы ў школах «згодна жаданьню вучняў і бацькоў». З той прычыны, што вышэйшыя навучальныя ўстановы ў БССР даўно ўжо працавалі выключна ў расейскай мове, кожнаму было зразумела, якую мову будуць «выбіраць» вучні й бацькі.

**Студзень 1959 г.** М. С. Хрушчоў сказаў у Менску: «Чым хутчэй усе мы будзем размаўляць па-руску, тым хутчэй пабудуем камунізм!»

**Сярэдзіна 1960 г.** Пачатак «эпідэміі» вызваленьня ад вывучэньня бел. мовы ў школах пры першым сакратары ЦК КПБ Пятры Міронавічы Машэраве. Да сярэдзіны 70-ых гг. у 95 гарадах і 117 райцэнтрах БССР не засталося ніводнай бел. школы.

**1960-1985 гг.** Скарачэньне колькасьці беларускамоўных выданьняў у БССР з 425 да 385 назваў, а іхняга накладу з 7,2 да 4,9 адсоткаў (ад агульнага накладу).

**Травень 1995 г.** Рэфэрэндум, паводле вынікаў якога рускай мове надаецца статус роўнасьці зь беларускай (хоць гэта фактычна існавала й раней). Пасьля гэтага бел. газэты зрабіліся двухмоўнымі. Тэлебачаньне, радыё, выкладаньне ў ВНУ практычна таксама перайшло на рускую мову.

**1994-1998 гг.** Скарачэньне колькасьці беларускамоўных школаў у Менску з 130 да 17. Ліквідацыя бел. школаў у абласных цэнтрах. Адмова бацькам у іхным праве вучыць дзяцей па-беларуску. Адмена навучэньня й заліку па бел. мове для асьпірантаў Нацыянальнай Акадэміі Навук Беларусі.

**1997 г.** Загад весьці дакументацыю выключна рускай мовай на Наваполацкай ЦЭЦ. Зачытваньне Прысягі маладога воіна Беларускага войска толькі па-руску. Скарачэньне накладаў беларускамоўных выданьняў да 5,5 адсоткаў.

**4. Прыніжэньне статусу мовы**

Можна даравацъ Кацярыне II, калі тая ўпэўнена пісала асьветніку М. Грыму, што «ва ўсёй Літве ўсе справы ва ўсіх судах у XVII ст. вяліся на рускай мове, што ў літоўскім архіве ўсе акты напісаныя рускімі літарамі на рускай мове», каб апраўдаць прыяднаньне «Літвы», г. зн. Беларусі й цяперашняй Летувы, — чаго не напішаш!? Тым больш, што «літоўскую» мову часта блыталі з «рускай», бо апошнім найменьнем называлі тагачасную рускую, украінскую ды беларускую мовы.

Тое, што бел. мова йснуе як самастойная, у першай палове XIX ст. пераканаўча даказвалі славісты П. Шафарык, А. Шляйхер, Ф. Міклашыч, І. Срэзьнеўскі. Іншых поглядаў прытрымліваўся публіцыст Вісарыён Бялінскі: «...Мы маем поўнае права сказаць, што цяпер ужо не йснуе маларасейскай мовы, а ёсьць абласны маларасейскі дыялект, як ёсьць беларускі ды іншыя падобныя да іх дыялекты», якой мовы — зразумела. Так ацэньваў нашую мову рэвалюцыйны дэмакрат суседняга народу. Чаго ж можна было чакаць ад рэдакцыі «казённой рептилии» пры канцылярыі віленскага генэрал-губэрнатара М. М. Мураўёва-Вешальніка — часопіса «Вестник Западной России»? У лютым 1863 г. падчас вызваленчага паўстаньня ў Беларусі супраць царызму гэты ворган друку адгукнуўся на прапанову апякуна Віленскай навучальнай акругі князя Шырынскага-Шыхматава, каторы лічыў патрэбным тлумачыць у расейскіх школах для дзяцей-беларусаў расейскіх словаў «белорусским наречием», так: «Але навучаць на беларускім жаргоне (!) — гэта бяссэнсіца, якая, дзякуй Богу, яшчэ не ўсплыла на розум нікому зь беларусінаў». Дадамо, што прапанова князя так і не была прынятая. Дакладна гэтаксама пагардліва ставіўся да беларускай мовы кожны «истинно русский человек, великоросс-шовинист, негодник и угнетатель, каковой есть типичный российский бюрократ» (паводле характарыстыкі У. Леніна). Ці ж далёка ад яго адыйшліся тыя абывацелі, што прыехалі ў Беларусь на службу або пасьля атрыманьня пэнсіі ў іншых мясцовасьцях СССР?

**5. Звужэньне сацыяльнай прыналежнасьці мовы**

Адзін з улюбёных мітаў беларусажэраў — міт пра ўяўную недаразьвітасьць бел. мовы ды ейную непрыдатнасьць для зносінаў у «вышэйшых сфэрах»: навуцы, мастацтве, тэхніцы, палітыцы, вайсковай справе. Такое сьцьверджаньне зьяўляецца адным з стэрэатыпаў пабытовай сьвядомасьці тых, хто адмаўляе бел. мове ў праве на йснаваньне. Галоўны ўдар гэтага й падобных сьцьверджаньняў скіраваны супраць асьвенчаных пластоў бел. этнасу. Так у XVII-XVIII ст.ст. з бел. мовы на польскую перайшлі прадстаўнікі магнацтва й шляхты. З другой паловы XIX ст. тыя самыя пласты й частка месьцічаў перайшлі на рускую мову.

Аднак усё гэта не перашкодзіла бел. мове разьвівацца, а часам і ўплываць на суседнія польскую ды расейскую. Не выпадкова абруселы літаратар з апалячанай беларускай шляхты (дарэчы, з альбанскімі каранямі) Тадэвуш Булгарын-

# Беларуская апазыцыя напярэдадні

*Гутарка з старшынёю Таварыства Беларускай Мовы Алегам Трусавым*

**— Спадар Алег, у нядаўнім мінулым Вы актыўна займаліся палітычнай дзейнасьцю, былі дэпутатам Вярхоўнага Савету 12 склікаьня. І цяпер, папэўна, добра арыентуецеся ў раскладзе палітычных сілаў у Беларусі... Што, увогуле, сёньня ўяўляе зь сябе нашая бел. апазыцыя? Якія зьмены адбыліся пасьля, сапраўды, бурлівых падзеяў апошніх двух месяцаў?**

— Па-першае, большасьць апазыцыйных партыяў, нягледзячы на моцнае супрацiўленьне з боку рэжыму, усё ж такі рэгістрацыю прайшла. Загінула самая слабая партыя, Сялянская, якую ачольваў Лугін, — ня здолела прадставіць тысячу заяваў. Лугін цяпер уступіў у партыю БНФ пад кіраўніцтвам Вячоркі. Усе астатнія партыі (дзьве Грамады, Аб'яднаная Грамадзянская, Беларускі Народны Фронт) прайшлі перарэгістрацыю. Такім чынам яны засталіся ўдзельнікамі ўсіх палітычных працэсаў, якія йдуць у Беларусі.

Што тычыцца апошніх падзеяў у Фроньце, дык на апошнім зьезьдзе, 30-31 кастрычніка, дзьве траціны дэлегатаў прагаласавалі за Вінцука Вячорку, і такім чынам большасьць фронтаўцаў захавала Фронт як рух і партыю. Меншая частка, на чале з Пазьняком, стварыла новую партыю, Кансэрватыўна-Хрысьціянскую. Я лічу што гэтая партыя таксама ў стане сабраць 1000 заяваў, каб зарэгістравацца. Але ейныя спробы прэтэндаваць на ўвесь БНФ, на ўсё спадчыну Фронту зараз, пасьля другой сэсіі зьезду, выклікаюць толькі ўсьмешку, бо за Пазьняком пайшло нашмат менш паловы фронтаўцаў. Хаця, магчыма, будуць нейкія судовыя працэсы ды іншыя спрэчкі ў міністэрстве юстыцыі, бо рэжыму вельмі выгадны гэты разкол. Аднак, як чалавек, каторы ўсе гэтыя ператрубацыі ў Фроньце бачыў на свае вочы, хачу сказаць, што гэта добра, што раскол адбыўся раней, чым адбудуцца важныя, можа, лёсаносныя падзеі для Беларусі.

Зараз новае кіраўніцтва БНФ маладога веку: Вячорка ды шасьцёра ягоных намесьнікаў, у тым ліку й Павал Севярынец, ачольнік «Маладога Фронту». («Малады Фронт» на апошняй сэсіі зьезду БНФ перайшоў цалкам на бок Вячоркі, г. зн., што патрыятычная моладзь уся амаль перайшла да «рэфарматараў», як называюць Вячорку й ягоных паплечнікаў). Сёньня яны маюць шанец паказаць сябе ў якасьці маладых, таленавітых кіраўнікоў. Альбо не паказаць. Я хвалююся аб тым, ці справіцца Вячорка ды ягоныя намесьнікамі з той вельмі адказнай місіяй, каторы дала ім гісторыя: «Калі быў кепскі Пазьняк, дык пакажыце, што вы лепшыя!» Гэта ня проста ў нашых умовах, і часу ім гісторыя дала ня шмат — нейкіх паўгады. Калі яны здолеюць захаваць той Фронт, які ён быў, і набраць новых людзей, пераўтварыць БНФ у сапраўдную масавую арганізацыю, — гэта будзе значыць, што Фронт, як піша Севярынец, «атрымае другое дыханьне». Калі ня здолеюць —значыць Фронт станецца маргінальнай групоўкай. Атрымаюцца дзьве маргінальныя групоўкі: адна Вячоркаўская, другая Пазьнякоўская.

Такім чынам, апазыцыя перагрупавалася, фактычна на палітычнай сцэне, акрамя Лугіна, засталіся тыя самыя асобы, каторыя ўсе бяруць удзел у перамоўным працэсе з рэжымам. Дэлегацыя ад апазыцыі была запрошаная ў Стамбул, дзе якраз Вячорка прадстаўляў Фронт як ягоны законна абраны лідар.

**— Вы кажыце пра будучыя, і даволі хуткія перамены ў палітычным жыцьці Беларусі. Калі прыблізна іх чакаць?**

— На мой погляд, важныя падзеі ў Беларусі адбудуцца, магчыма, гэтай зімой ці вясной. Усё да гэтага йдзе. Тая эканоміка, якую маем сёньня ў Беларусі, павінна неўзабаве прывесьці да сацыяльнага выбуху. Такога кепскага матар'яльнага становішча, як за апошнія пяць гадоў праўленьня рэжыму Лукашэнкі, у нас яшчэ не было. Зараз, дарэчы, расейскае масла пачалі нам завозіць (зразумела, з «крутымі» для беларусаў расейскімі цэнамі), у крамах не стае гарэлкі (каторую п'е пераважна электарат Лукашэнкі). Такога ніколі не было. Дайшлі да таго, што закупаем расейскія прадукты.

Падзеі 17 кастрычніка паказалі моц апазыцыі, моц, увогуле, нашай бел. моладзі. Упершыню пабілі гэткую вялікую колькасьць міліцыянтаў. Усе ўбачылі, што апазыцыя можа абараняцца. Дагэтуль апазыцыю білі проста так, цяпер яна дае адпор.

**—Ці хопіць у апазыцыі сьмеласьці й рашучасьці на другія падобныя дзеяньні супраць рэжыму?**

Безумоўна. Самае ж цікавае тут, што міліцыянтаў білі не сябры БНФ, не сябры «Маладога Фронту», не студэнты: гэта ў асноўным рабіла моладзь з прафэсыянальна-тэхнічных вучылішчаў, завадзкая, каторая яшчэ нядаўна падтрымлівала «баркашоўцаў». Гэтая моладзь увесь час б'ецца спаміж сабою, для іх бойка — лад жыцьця. Міліцыянты ўпершыню сутык-

## мовы

Шкандэрбэк у 1837 г. пісаў у сваім пецярбурскім часопісе «Северная пчела»: «Дойдёт до того, что у нас начнут писать белорусским наречием, как при царе Алексее Михайловиче!» Намаганьні ня выпусьціць бел. мову з-пад сялянскай страхі, каб на ёй не навучалі, не друкавалі, мелі далёкасяжную мэту — разьдзяліць бел. народ, пазбавіць яго лучнасьці спаміж рознымі грамадзкімі пластамі.

Тыя, хто кажа пра ўяўную неканкурэнтназдольнасьць бел. мовы, ужываюць усё тыя самыя нецывілізаваныя мэтады. Гэта яны не прымаюць падпіску на бел. газэты й часопісы. Гэта яны не дапускаюць беларускамоўныя выданьні ў гандлёвую сетку й масавыя бібліятэкі. Гэта яны памяншаюць наклады выданьняў на бел. мове, колькасьць назоваў гэтых выданьняў. Гэта яны выцісьняюць бел. мову з тэлебачаньня й радыёвяшчаньня.

1 сьнежня 1994 г. прэзыдэнт РБ на сэсіі Гомельскага гарсавету патлумачыў ягоным дэпутатам, чаму ён не гаворыць па-беларуску: «Людзі, каторыя гавораць на беларускай мове, ня могуць рабіць нічога, як толькі гаварыць на беларускай мове, беларуская мова — бедная мова. У сьвеце існуюць толькі дзьве вялікія мовы —гэта руская і ангельская». У свойчас брытанскі гісторык Т. Маколей пісаў: «Багатая й магутная мова Лютэра, якая была выгнаная са школаў латыньню пэдантаў і французкай з палацаў, знайшла сабе прытулак сярод народу. Пра моц гэтае мовы Фрыдрых (кароль Фрыдрых II Прускі — *В. Г.*) ня меў ані найменшага ўяўленьня. І самая нямецкая мова, і тыя, хто гаварыў ёю, выклікалі ў яго пагарду невука.

Тым, хто называе бел. мову непаўнавартаснаю ў параўнаньні з расейскай (а менавіта такое казаў адзін з заснавальнікаў «Русско-белорусского братства», створанага ў Пецярбурзе ўвосені 1998 г.), варта было б пачытаць А. С. Пушкіна, які некалі пісаў: ...Але вучонасьць, палітыка й мэтафізычная мова ў нас зусім не йснуе... Нашыя ляніўцы больш ахвотна выказваюцца моваю чужою, якой мэханічныя формы даўно гатовыя ды ўсім вядомыя». Расейская мова з кволай папялушкі ператварылася ў прыгажуню. Чаму ж гэткай не зрабіцца мове беларускай? Няўжо толькі таму, што гэтага ня хочацца беларусажэрам?

Што ж да канкурэнтназдольнасьці моваў, дык варта ўзгадаць, што казаў каля стагодзьдзя таму назад выдатны дзеяч жыдоўскага нацыянальнага адраджэньня У. Жабацінскі: «Але навошта ігнараваць гісторыю й запэўніваць, нібы ўсё абыйшлося без кулака й нібыта посьпехі расейскай мовы на пэрыфэрыі даводзяць унутранае бясьсільле іншародчаскіх культураў? Нічога гэтыя посьпехі не даказваюць, апроч старой ісьціны, што пад каваным абцасам можна растаптаць найбольш жыцьцяздольную кветку».

*Працяг у наступным нумары*

**Валянцін Грыцкевіч**

# Зьвесткі пра паэта Янку Быліну



*1883 — 1956*

У вераснёўскім нумары «Голасу Радзімы» (36/1999) прачытала я зацемку Ю. Гіля зь Вільні, зь якой даведалася пра ўшанаваньне памяці кс.кс. Адама Станкевіча ды Яна Семашкевіча. Аўтар напісаў: «Сёлета спаўняецца 50 гадоў з дня сьмерці ў сталінскім ГУЛАГу Адама Станкевіча і Яна Семашкевіча. Багаслужэньне на беларускай мове з гэтай нагоды правёў кс. Ян Шуткевіч...»

Здавалася б усё, як мае быць, калі ўшаноўваецца памяць беларускіх сьвятароў і да таго ж яшчэ багаслужэньнем на беларускай мове. Добра, што такая магчымасьць ёсьць у Вільні. Хачу адно спраставаць адну недарэчнасьць усяго мерапрыемства. Ян Семашкевіч, ксёндз, беларускі паэт, не памёр 50 гадоў таму ў сталінскім ГУЛАГу, яго там нават не было. Адкуль такія весткі ў аўтараў мерапрыемства? Думаю, калі ўжо ў гонар нашых бел. дзеячоў арганізоўваюцца мерапрыемствы й называюцца іхнімі імёнамі вуліцы, дык варта ведаць сапраўдныя іхнія жыцьцёвыя лёсы й мейсца вечнага спачыну. Бо, можа, варта было б зарганізаваць туды пілігрымку?



*Касьцёл у Мар'янаве, пабудаваны кс. Янам Семашкевічам. (Здымак з калекцыі Мар'яна Пецюкевіча).*

Сама пра паваенны лёс Янкі Быліны (паэтычны псэўданім Я. Семашкевіча) даведалася толькі ў 1996 г. Інспірацыяй для пошукаў сталася біяграфія слоўніка «Беларускія пісьменьнікі» (т. 1, Мінск, 1992). Вынікала зь яго, што Я. Быліна памёр там, дзе я праз чатыры гады вучылася ў ліцэі: у Міхалаве на Беласточчыне. Як высьветлілася, быў ён там сапраўды ксяндзом, але да 1946 г. Пазьней быў назначаны ў парахвію Мар'янава каля Саколкі, дзе будаваўся касьцёл. Там Я. Семашкевіч давёў будову касьцёла да завяршэньня й стаўся ягоным першым пробашчам. У 1996 г. адведала я касьцёл у Мар'янаве й тамтэйшага ксяндза. Ксёндз паказаў мне кроніку парахвіі, якую напісала Гэлена Трызна, дзе шмат мейсца адводзіцца Семашкевічу, як першаму пробашчу. Пазнаёмілася з гаспадарамі, у каторых жыў Я. Семашкевіч, пакуль не пабудавалася плябанія. Размаўляла з жыхарамі вёсак Бомбля й Пшэлаўка, якія добра памятаюць свайго ксяндза, памятаюць, як даводзіў іхніх дзяцей да камуніі, якія парадкі навёў у касьцёле. Парабіла здымкі ўжо новага касьцёла, помніка па Яну Семашкевічу, і дамоў, у якіх ён жыў. Касьцёл, які пабудаваў Ян Семашкевіч, быў перанесены ў Грабоўку каля Беластоку, дзе стаіць і сёньня. Напісала артыкул у беластоцкі «Czasopis» (11/1996).



*Дом, у якім жыў Янка Быліна*

Неяк усё прайшло бяз рэха. І, як відаць далей, лічыцца, што Я. Семашкевіч «зьведаў незаконныя рэпрэсіі ў гады культу асобы». А тым часам ён усёй душой служыў людзям і касьцёлу на Сакольшчыне, не прызнаючыся да беларускасьці.

Памёр кс. Я. Семашкевіч 18 лютага 1956 г. у плябаніі, дзе жыў адзін. Людзей занепакоіла, што ня выйшаў на ранішнюю імшу. Пайшлі пабачыць, што сталася. Калі зламалі дзьверы, пабачылі ксяндза нежывога. Усе ягоныя рэчы забрала ягоная сястра, каторая жыла ў Варшаве. Ейнага адрасу не ўдалося мне знайсьці. Думаю, варта некалі сарганізаваць пілігрымку з касьцёла, дзе служыць кс. Я. Шуткевіч, у Мар'янава. А пакуль варта за душу нябошчыка адслужыць ва ўгодкі сьмерці, бо яшчэ ніхто зь беларусаў 18 лютага за яго не жаліўся.

**Гэлена Глагоўская**

# Новага Году

нуліся з простым народам, а ня зь нейкімі там інтэлектуаламі, і гэты народ даў ім добрага дыхту. Міліцыянты, справакаваўшы бойку, спадзяваліся, мабыць, што й гэтым разам безпакарана паб'юць ды заарыштуюць два-тры дзясяткі «шчырых беларусаў», — і ўсё гэтым закончыцца. Не атрымалася. Калі 50 міліцыянтаў кінулася зьбіваць народ, які ўжо адыходзіў (такая ў іх выпрацавалася тактыка), дык народ нечакана павярнуў назад і даў добры адлуп.

**— Што думаюць у Беларусі пра ролю апазыцыйнага Вярхоўнага Савету 13 скліканьня на чале зь Сямёнам Шарэцкім?**

— Пазыцыя нашага апальнага парляманту сёньня залежыць ад самога парляманту. Ім трэба ўсё ж такі больш актывізавацца й больш працаваць на бел. нацыянальную ідэю. Наш парлямант павінен перад сваім адыходам пакінуць спадчыну, свой погляд на тое, якім ён бачыць Беларусь у наступным тысячагодзьдзі. Не скардзіцца на Лукашэнку, ня езьдзіць у Маскву ці ў Нью Ёрк прасіць дапамогі, а сфармуляваць бел. нацыянальную ідэю вачыма парляманту. Здолеюць гэта зрабіць — застануцца ў гісторыі, як застаўся ўрад БНР. Ня здолеюць — зьнікнуць палітычна.

Знутры ў Беларусі мы разглядаем наш парлямант як адну з многіх сілаў у палітычным спэктры апазыцыі, — і ня самую моцную, бо ім усё ж такі яшчэ не стае бел. сьведамасьці, не стае глябальнай адукацыі. Сьмеласьці, аднак, сёньня ў іх хапае, нашыя парлямантарыі, і сам Сямён Шарэцкі, людзі мужныя, не пайшлі на супрацоўніцтва з рэжымам. Адной мужнасьці, на жаль, у палітыцы недастаткова.

**— Паводле Канстытуцыі праз тры месяцы пасьля заканчэньня кадэнцыі Прэзыдэнта РБ павінныя былі абвешчаныя прэзыдэн-цкія выбары...**

— Так. Але ў гэтым ужо няма патрэбы. Па-першае, ня ў стане апазыцыя паўтарыць

*Працяг на старонцы 8*

# СПРАВА N 528

## ПА АБВІНАВАЧАНЬНІ СТАНКЕВІЧА СТАНІСЛАВА ЛЯВОНАВІЧА Й ЮРЭВІЧА ІВАНА ВАЦЛАВІЧА АБОДВУХ У ЗЛАЧЫНСТВЕ ПРАДУГЛЕДЖАНЫМ

О, Вільня, Вільня! Нашым ёсьць сэрцам,
Ці жаралом тым шпаркай крыніцы,
Жыцьцё ізь Вільні наша снуецца,
І па Краіне вакол бурліцца.

Расла ўся ў Вільні нашая слава,
Ўраджай вялікі для ўсіх давала,
Дык Вільня важнай вельмі ёсьць справай
Ці, лепш сказаці, нат – ідэалам.

Край захапляўся ейнай праявай
І клаў на Вільню многа надзеяў,
Што Вільня выйдзе герой на славу
І ўсім служыці даляй сумея.

Ды вось нарэшце зьнікла ўсё гэта,
Цяпер нам Вільня стала чужою,
Пакуль асьветай ейнай адзеты,
Але пайшло ўсё ў прошласьць, як зноем.

У Вільні многіх гора спаткала,
Папала зь Вільні многа за краты,
І летуценьні сталі правалам
І безь ніякіх нават-жа датаў!

Мяне, як ліст той, з дрэва лёс кінуў,
Ў чужы, далёкі край, мала знаны...
Пакінуў Вільню, сям'ю, краіну,
Зь якой быў вельмі моцна зьвязаны.

Гэты верш наш бацька, Станіслаў Станкевіч, ведамы ў асяродзьдзі віленскай беларускай інтэлігенцыі міжваеннага часу як «Кнігар», – напісаў у Бароўску Манчагорскай вобласьці, дзе адпакутваў амаль усе прысуджаныя яму 10 гадоў, з 1946 па 1954 год.

У 1998 г. мы з братам Яраславам зьвярнуліся ў Архіў КДБ у Вільні, просячы дазволу пазнаёміцца з судовай справай Станіслава Станкевіча, з надзеяй знайсьці сканфіскаваны рукапіс «Лявонавай долі» (галоўная паэтычная бацькава праца). Пасьля некаторых фармальнасьцяў нам выдалі «Справу N 528» у дзьвёх тэчках: нумар не вялікі, калі браць пад увагу,



*Сям'я Станкевічаў. 1945 г.*

што ў Архіве КДБ ЛССР перахоўваецца 47819 справаў! (Напрыклад, справа на Я. Багдановіча праходзіць пад N 19129). Нумар бацькавай справы сьведчыў, што Станкевіч патрапіў у «кіпцюры ГПУ» тады, калі «паляваньне» на віленскую беларускую інтэлігенцую толькі распачыналася.

Дрыготкімі рукамі перагортвалі мы з братам пажоўклыя ад часу карткі – пратаколы допытаў. Допыты пачыналіся позна вечарам і доўжыліся 5-6 гадзінаў. Пераважна на кожным зь іх задавалася адно, збольшага – два пытаньні. У чым жа вінавацілі Ст. Станкевіча? Нягледзячы на тое, што ў справе мелася даведка пра Беларускі Нацыянальны Камітэт і ягонае кіраўніцтва, яго абвінавачвалі ў тым, што ён быў старшынёй (!) Камітэту. Пратаколы допыту кароткія, адказы падсьледзтвеннага таксама лаканічныя: «Не», «Ня быў», «Ня ведаю». Можна сабе ўявіць, як адбываліся допыты, калі яны цягнуліся 5-6 гадзінаў, а задавалася толькі адно (!) пытаньне... Нават калі б пыталіся такі працяглы час толькі «па-добраму», дык і тое можна было б звар'яцець. А «там» «па-добраму» нічога не рабілася.

Трэба сказаць, што ўся «Справа N 528» шытая белымі ніткамі. Станіслава Станкевіча вінавацілі паводле паказаньняў нейкага Івана Юрэвіча, таксама сябра БНК. Паводле пратаколаў Юрэвіч заявіў, што беручы неяк пропуск у Камітэце дзеля паездкі ў Баранавіцкую вобласьць за жонкаю й рэчамі, ён нібыта чуў, як Ст. Станкевіч, якога яму рэкамэндавалі як старшыню Камітэта, «выступал на собрании членов «БНК» с призывом вербовать белоруссов для вступления в немецкую армию». Справа Юрэвіча й Станкевіча вялася разам. Зьдзіўляе аднак тое, што першыя пратаколы, у якіх Юрэвіч паказаў на Станкевіча, адсутнічаюць. Гэта наводзіць на думку, што Юрэвіча, каторы фактычна ня ведаў Станкевіча, энкавэдэшнікі прымусілі паўтарыць загадзя падрыхтаваную імі «вэрсію».

Два разы бацьку арганізоўвалі вочную стаўку зь Юрэвічам. Бацька цьвердзіў адно: «Ня ведаю», «Першы раз бачу», «Старшынёй Камітэту ня быў». Допыты вяліся амаль тры месяцы, а «выбіць» з падсьледзтвеннага пажаданы адказ не ўдалося. На пытаньні «Мэты БНК? Сябры БНК?» Ст. Станкевіч нязьменна адказваў: «Камітэт займаўся абаронай беларусаў ад немцаў, хадайнічаў за беларусаў, каторыя былі рэпрэсаваныя нямецкімі ўладамі. Сяброў БНК ня ведаю, на сходкі не хадзіў, цэлымі днямі працаваў у кнігарні». Чытаючы падобныя адзін да аднаго, няхітрыя й кароткія, пратаколы, стараліся зразумець, каторы зь іх быў найцяжэйшы, калі катавалі ды зьдзекваліся так, што зламалі рэбры?

16 лютага 1946 г. было складзенае «Обвинительное заключение»: «Следствием установлено: В 1942 году Станкевич Станислав, будучи враждебно настроенным против Советской власти, добровольно вступил в БНК и, являясь председателем этого комитета, проводил систематические сборища в здании комитета, где призывал участников комитета на борьбу против Красной Армии, для чего требовал производить новые вербовки для передачи добровольцев в немецкую армию в части СС. Станкевич изобличается показаниями обвиняемого Юревича и очной ставкой». З усіх «сьведчаньняў» Юрэвіча праўдзівымі былі толькі ягоныя зьвесткі пра йснаваньне БНК, усё астатняе было сфабрыкаванае самімі сьледчымі. Мабыць таму Я. Багдановіч, М. Пецюкевіч ды інш. былі арыштаваныя толькі 6 гадоў пазьней,



Прокуратура СССР

149-  Секретно  Копия

ПРИГОВОР

Именем Союза Советских Социалистических Республик

1946г. мая 14 дня г. Вильнюс. Военный Трибунал в/НКВД Литовской ССР, в закрытом судебном заседании, в составе пред-щего капитана юстиции Федорова и членов подполковника милиции Ивахненко, лейтенанта милиции Кузминова, при секретаре Пономаревой, рассмотрев дело по обвинению

1. Станкевич Станислава Леоновича, 1886г.р., уроженца д. Арлеяты, Ошмянского района, БССР, из крестьян-бедняков, торговца, белоруса, гр-на СССР, б/п, с не оконченным средним образованием, женатого, несудимого, до ареста с 1926г. занимавшегося коммерцией и

2. Юревич Ивана Вацлавовича, 1901г.р., уроженца м. Граужишки, Ошмянского района, БССР, из рабочих, рабочего, белоруса, гр-на СССР, б/п, малограмотного, женатого, несудимого, обоих в преступлении, предусмотренном ст. 58-1-а УК РСФСР.

# Косава – інтэгральны індэкатар глябальнага

*Заканчэньне. Пачатак у N27.*

Ніжняя палата Германскага парляманту ўхваліла закон аб грамадзянстве. Закон пашырае магчымасьці атрыманьня нямецкага грамадзянства. Калі гэты закон уступіць у сілу, Нямеччына ператворыцца ў краіну эмігрантаў (гэта меркаваньне аднаго зь нямецкіх дэпутатаў). І гэтае ёсьць не перабольшаньне. Нямеччына — адна з самых стабільных краінаў Эўропы, краіна найвышэйшага дабрабыту, як матар'яльнага, гэтак і духоўнага, краіна з высокім узроўнам захаваньня правоў чалавека. У Нямеччыну пры кожнай нагодзе й падставе стараецца эміграваць вялікая колькасьць людзей, і гэта на 90-95% людзі, каторыя жывуць згодна з формуляй «ube bene, ibi patria» («дзе добра, там і радзіма»). Перасяленьне такіх людзей можа стацца трагедыяй для немцаў і, такім чынам, для ўсяе Эўропы. Пакуль што карэнная нацыя зьяўляецца гаспадаром свае краіны. Ейны гістарычны досьвед, ейны духоўны патэнцыял працуюць на дабрабыт усіх насельнікаў Нямеччыны. Аднак вірус разбурэньня нацыі запушчаны, і ён будзе працаваць безперапынна, з усё нарастаючай сілай. Сындром Косава Нямеччыне забясьпечаны. Натуральна, Нямеччына ёсьць свабодная й незалежная краіна. Законы тут прымаюць прадстаўнікі карэннай нацыі, каторыя ў сваёй дзейнасьці кіруюцца сваімі перакананьнямі ды ідэалёгіяй — сёньня гэта ідэалёгія сацыял-дэмакратаў. Менавіта сацыялдэмакратычная ідэалёгія пануе сёньня ў Эўропе. Яна разглядае чалавека як галоўную каштоўнасьць грамадзтва, як стваральніка матар'яльных і духоўных дабротаў, а правы чалавека разглядае як прыярытэтныя перад інтарэсамі дзяржавы, нацыянальных і сацыяльных групаў. Гэтая ідэалёгія садзейнічала пасьпяховаму й плённаму разьвіцьцю дзяржаваў, у каторых карэнныя нацыі былі гаспадарамі сваіх тэрыторыяў. Яна забясьпечвала прадстаўнікам іншых нацыянальнасьцяў роўныя правы з карэннай нацыяй ды садзейнічала інтэграцыйным працэсам паміж свабоднымі раўнапраўнымі нацыямі на ўзроўні дзяржаваў. Аднак яна аказалася разбуральнай там, дзе былі закранутыя карэнныя інтарэсы нацыяў. Аказалася, што правы чалавека зьяўляюцца пустым гукам там, дзе парушаюцца правы нацыі. Правы чалавека могуць разглядацца толькі ў кантэксьце свабоднага, раўнапраўнага разьвіцьця нацыяў. Косава таму самы сьвежы й самы трагічны прыклад — жорсткае папярэджаньне чалавецтву аб парушэньні ім прынцыпа самаарганізацыі. Альбанцы зьяўляюцца карэннымі жыхара-мі Косава. Камуністычны рэжым Ціта ў адпаведнасьці з прынцыпам пралетарскага інтэрнацыяналізму садзейнічаў перасяленьню альбанцаў з Альбаніі ў Косава. Тытульная нацыя Югаславіі, сэрбы, стварылі найбольш спрыяльныя ўмовы для самаразьвіцьця тут альбанскай абшчыны. Імкненьне сэрбаў да экспансіі, асыміляцыі альбанцаў ня мелі, нават часовага, посьпеху, бо суадносіны паміж імі й альбанцамі хутка памяняліся на карысьць апошніх. Гэта спрыяла фармаваньню ў альбанцаў ідэалёгіі нацыяналізму, якая накіроўвае нацыю на свабоднае ды незалежнае разьвіцьцё. Сэрбы ж імкнуліся зьберагчы сваё дамінуючае становішча тытульнай нацыі й безьперапынна ўзмацнялі рэпрэсыўныя мэтады ў адносінах да альбанцаў, праводзячы палітыку шавінізму. На нашых вачох барацьба двух ідэалёгіяў набыла агульнаэўрапэйскі, нават сусьветны характар. Блок НАТА рашуча падтрымаў барацьбу альбанцаў за свае правы сваёй магутнасьцю й тым самым рэальна стаў на пазыцыі абароны ідэалёгіі нацыяналізму й падтрымкі сэпаратызму (дысыпатыўных працэсаў), інакш кажучы — апошняй стадыі дэкалянізацыі народаў сьвету.

Ваенныя дзеяньні НАТА ня вырашылі канфлікту, а прывялі да гуманітарнае катастрофы. Сёньня нават гультай і той ужо кінуў камень у бок НАТА, а камуністы атрымалі ад НАТА царскі падарунак для пропаведзі сваёй антычалавечай ідэалёгіі. Прычына ў тым, што палітычная эліта заходняй дэмакратыі паказала абсалютную няздольнасьць кіравацца ў сваіх дзеяньнях дасягненьнямі навукі ды творча асэнсоўваць эвалюцыйныя працэсы, застой, тэарытычную некампэтэнтнасьць, — гэтак азваўся аб сабе глыбокі крызас ідэалёгіі ўсіх дэмакратычных плыняў. Ва ўладзе вядучых краінаў аказаліся некампэтэнтныя ў тэарытычным пляне дзеячы, каторыя добрасумленна прытрымліваюцца догмаў дэмакратыі, імкнучыся захаваць непахіснасьць устаноўленых 50 гадоў назад канонаў. Для іх не йснуе фундамэнтальнай тэорыі самаарганізацыі (сынэргетыкі), ейных асобных частак у выглядзе тэарэмы Фішара ці закону энэргітычнай неэфэктоўнасьці вялікіх дзяржаваў. Яны не разумеюць ролі нацыяў у герархіі самаразьвіцьця цывілізацыі. Менавіта тэарэма Фішара матэматычна даказвае, што самая маленькая нацыя зьяўляецца найвялікшым багацьцем для ўсяго чалавецтва. Усялякая экспансія ды асыміляцыя нацыі, штучная ці натуральная, ёсьць велізарнае злачынства супраць чалавецтва. Закон жа энэргетычнай неэфэктоўнасьці вялікіх дзяржаваў паказвае, што дзяржава плошчай звыш 500 тыс. кв. км. ужо зьяўляецца неэфэктоўнай. Таму злачынныя пляны г. зв. «аб'яднаньня» Расеі зь Беларусьсю ў адну дзяржаву, генацыд беларускай нацыі, генацыд народаў Поўначы, Каўказу ва ўгоду рускамоўнаму шавінізму характарызуе ня толькі палітычную некампэтэнтнасьць палітычных элітаў Расеі

## АРТ. 58-І «А» УК РСФСР

калі махавік кадэбоўскай «сячкарні» раскруціўся па-сапраўднаму.

Ваенны Трыбунал Войск НКУС Літоўскай ССР празь недахоп наяўных доказаў адаслаў справу пракурору на дасьледаваньне, рэкамэндуючы дапытаць сведкаў: Гарэйву Ўладаса, Станкевіча Браніслава з рэдакцыі «Советская Литва» й «Цеса», Жогаса Пятраса, Станкевіча Адама Вікеньцевіча. Яшчэ 2 месяцы «мучыліся» сьледчыя з абвінавачаньнем Станкевіча ды, нічога новага не знайшоўшы й ня «выбіўшы», зноў накіравалі справу ў суд. 14 траўня 1946 г. прысуд нарэшце быў вынесены: здрада радзімы, артыкул 58-І «а». Суд пазбавіў Ст. Станкевіча вольнасьці на 10 гадоў плюс паражэньне ў правах на 5 гадоў з канфіскацыяй маёмасьці.

У чэрвені 1946 г. маёмасьць канфіскавалі – хатнюю й кнігарні. А 13 лістапада 1956 г., калі Station Станіслаў Станкевіч ужо 2 гады як быў на свабодзе, Ваенная пракуратура склала такі дакумант: «По мнению военного прокурора округа показания осуждённого Юревича не могут быть положены в основу обвинения Станкевича, поскольку указанные Юревичем факты Станкевич отрицает, а других каких-либо доказательств его виновности предварительным и судебным следствием не установлено. Обвинение Станкевича и Юревича в том, что они проводили изменническую работу до ареста, т. е. до 1945 г., никакими доказательствами не обосновано. Этот пункт обвинения им предъявлен вовсе не был и судом не исследовался».

* * *

Суворыя выпрабаваньні выпалі на долю майго бацькі Станіслава Станкевіча. Драматычныя падзеі мінулых гадоў закранулі яго вельмі балюча. Не асягнуў ён вяршыняў навукі, пра якія марыў, не адыгрываў кіраўнічай ролі ў бурлівым беларускім жыцьці першай паловы XX ст., ня стаўся славутым паэтам. Але сваё жыцьцё й дзейнасьць назаўжды зьвязаў зь лёсам каханай Радзімы, за незалежнасьць каторай змагаўся ўсё жыцьцё, і за якую адпакутваў дзевяць доўгіх гадоў у сталінскім ГУЛАГу.

**Міраслава Русак**

## Праваслаўнае брацтва



ў гонар Канстанціна Астрожскага стварылі мы нядаўна пры царкве ў Калодзішчах. У асноўным у яго ўваходзіць моладзь. І гэта галоўны наш клопат, бо моладзь некалі прыйдзе да ўлады. Дасылаю Вам фатаздымак, зроблены 11 верасьня ў часе паніхіды па князю К. Астрожскім і ўсіх загінуўшых за незалежнасьць Радзімы.

**а. Аляксандар Верамейчык**

## Дзейнасьць Лукашэнкі

ад самага пачатку была правакацыйна антынародная, г. зн. — антыбеларуская. Учынкі ягоныя небывалыя ў нармальных (не акупаваных) краінах, бо дзе гэта магчыма, каб галава краіны зьліквідаваў гістарычны сьцяг і герб, стварыўшы свой савецкі заменнік-сурагат? Гэтасама настойліва Лукашэнка выдаляе з ужытку ва ўрадавых структурах, у школах ды іншых установах беларускую мову, нібыта яна «халопскі дыялект», скажэньне пекнай расейшчыны... Гэтую, пачаткова загадкавую для вонкавых назіральнікаў, дзейнасьць Лукашэнкі растлумачыла мне ўрадавая газэта «Савецкая Беларусь». Відавочна, пануе там трывалы культ Лукашэнкі, дзяржаўнага дзеяча й цудоўнага дзіця маткі — калгаснай даяркі. Тады як зьезд у Белавежы, на якім Ельцын, Шушкевіч і Краўчук парушылі «непарушны Савецкі Саюз», трактуецца як замах унутранай і міжнароднай рэакцыі.

У Беларусі па адыходу Шушкевіча павярнулі да еднасьці з Савецкім Саюзам на ідэалягічным, арганізацыйным (КДБ, міліцыя) ды моўным кірунках. Бо для Лукашэнкі Савецкі Саюз трывае й надалей, разам зь ім — калгасы, валявое кіраваньне гаспадаркай, адзяржаўленьне прэсы й тэлебачаньня, а таксама ксэнафобія ды афіцыйна падтрыманая антызаходнасьць, каторая адыйграе ролю «чорнага каня». Беларусь пад кіраўніцтвам Лукашэнкі сталася анахранічным манумэнтам, які штурхае людзей ва ўсё большую бяду ды занядбаньне. Беларускі народ ёсьць цярплівы й задавольваецца мінімумам. Але ўсё мае свае межы. Сёлятні неўраджай прысьпешыў працэс яўнага бунту. Расея, занятая сваёй чарговай вайной на Каўказе, эканамічна няздольная, разьдзіраная крызысам улады, ня можа па-сапраўднаму дапамагчы рэжыму Лукашэнкі, хоць ён ёсьць клясычным расейскім чыноўнікам. І тое калгаснага рангу. Беларусь, дзякуючы ўласна адраджэньню памяці, ня дасць сябе перайначыць у калгас, у які штурхае яе няздарны бюракрат, што наўвоч пераўтвараецца ў крывавага дыктатара.

**Зьбігнеў Жакевіч**
*Гданьск*

## Зварот

да кіраўнікоў Алімпійскай Фэдэрацыі Аўстраліі быў прыйняты 10 кастрычніка сябрамі Фэдэральнай рады беларускіх Арганізацыяў у Аўстраліі. У Звароце, падпісаным упаўнаважанымі Управай ФРБАА, сябрам Управы **Алегам Шнэкам** і сакратаром Управы **Паўлам Гузам**, у прыватнасьці гаворыцца: «Нам стала ведама, што сп. А. Лукашэнка, былы Прэзыдэнт Рэспублікі Беларусь, намерваецца прысутнічаць на Алімпіядзе-2000 у Сыднэі як афіцыйны Прэзыдэнт РБ. Згодна з Канстытуцыяй РБ 1994 г... «Прэзыдэнт выбіраецца непасрэдна народам Рэспублікі Беларусь. Тэрмін паўнамоцтваў Прэзыдэнта пяць гадоў». Згодна той самай Канстытуцыі кадэнцыя А. Лукашэнкі, абранага на пасаду Прэзыдэнта ў 1994 г., закончылася 22.07.1999 г... Зазначаем, што з гэтага моманту ўсе дэмакратычныя краіны сьвету, уключаючы ЗША, не вызнаюць сп. А. Лукашэнку як легітымнага Прэзыдэнта РБ. Як прыклад, мы хочам зьвярнуць Вашую ўвагу на ягоны дыктатарскі спосаб кіраўніцтва дзяржавай. Атрымаўшы ўладу, ён адразу загадаў правесьці няправўны рэфэрэндум і, як Вы памятаеце, на Алімпіядзе ў Атланьце ў 1996 г. замяніў беларускую нацыянальную сымболіку... на былую савецкую, якую беларуская незалежная дзяржава прымушаная ўжываць і на сеньняшні дзень. Сп. А. Лукашэнка ў прамове перад ім створаным «урадам» усенародна параўнаў сябе з Адольфам Гітлерам і прапанаваў павесьці Беларусь па сьлядох фашысцкай Германіі. Галоўная мэта А. Лукашэнкі — ліквідацыя Рэспублікі Беларусь як дзяржавы, поўная інтэграцыя ў склад Расейскай Фэдэрацыі й балаціраваньне на пасаду Прэзыдэнта РФ. Для таго, каб Вы змаглі больш дасканала зразумець сытуацыю, якая склалася ў Беларусі, мы радзім Вам пагляздець тэлевізыйную праграму «Замежны карэспандэнт», «Забытая краіна», прадстаўленую Джорджам Нігусам па «АБЦ» 4.08.1999г. Мы, грамадзяне Аўстраліі беларускага паходжаньня, шануючы прынцыпы дэмакратыі ды правоў чалавека, зьвяртаемся да Вас, Алімпійскай фэдэрацыі Аўстраліі, не даваць сп. А. Лукашэнку ганаровага права Прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь на Алімпіядзе-2000. Ідэалы Алімпіяды — гэта справядлівасьць, сяброўства й пашана, і таму мы верым, што Вы высьветліце гэтую справу з Інтэрнацыянальным алімпійскім камітэтам і дасьцё справядлівы выснаў. Мы зьвяртаемся да ўсіх народаў сьвету падтрымаць нашую ініцыятыву, каб паказаць такім дыктатарам як А. Лукашэнка, што ім няма мейсца ў дэмакратычным сьвеце сярод вольных людзей!»

## Згуртаваньне Беларусаў Канады

правяло 31 кастрычніка свой 37-ы Агульны зьезд сяброў і дэлегатаў ЗБК. Жадаем нашай старэйшай і адной з самых моцных бел. арганізацыяў на эміграцыі плёну ў далейшай дзенасьці на карысьць беларушчыны! З Новым годам вас, сябры!

**Віншуем з 80-годзьдзем** Старшыню Каардынацыйнага Камітэту Беларусаў Канады др. **Раісу Жук-Грышкевіч**! Цешымся зь ейнай шматгадовай, усебаковай і плённай дзейнасьці на карысьць беларушчыны!

**Рэдакцыя «Руні»**

## У выдавецтве «Рунь»

рыхтуецца да друку кніга ўспамінаў **Міраславы Русак «Лявонава доля»** пра жыцьцёвы й творчы лёс Станіслава Станкевіча (1886—1964), які быў ведамы ў Вільні міжваеннага пэрыяду, як уласьнік прыватнай беларускай кнігарні, кнігавыдаўца, асьветнік ды паэт. Ст. Станкевіч выдаў два прыжыцьцёвыя зборнікі паэзіі «Сьмех ня грэх» (1926) і «З майго ваконца» (1928). Але большасьць ягоных вершаў захавалася ў ракапісах, у сямейным архіве ягоных дзяцей, Міраславы Русак і Яраслава Станкевіча. У вершаваны дадатак да кнігі М. Русак увайшлі пераважна рукапісныя, нідзе раней недрукаваныя творы паэта. У рубрыцы «Сячкарня» мы друкуем урывак з кнігі «Лявонава доля».

## Напачатку верасьня ў ЗША

пабывала група маладых беларускіх палітыкаў, у тым ліку і я, кіраўнік Пружанскай МА «Грамадзянскі Форум». Спачатку на борце самалёта галяндзкай авіякампаніі KLM мы накіраваліся на поўдзень ЗША, штат Тэнэсі. Адтуль паляцелі ў Літл Рок, горад, дзе калісьці быў губэрнатарам Біл Клінтан. Сустракаліся мы выключна з мэрамі, губэрнатарамі ды кіраўнікамі мяйсцовых НДА. Дарэчы, у штаце Арканзас 67 адсоткаў складаюць афра-амэрыканцы (чорныя). Тэмпэратура тут і ўдзень, і ўначы заўсёды +25-37 градусаў. Паўтары тыдні мы жылі ў гатэлі «Hilton», а потым нас пасялілі ў амэрыканскія сем'і. Як я заўважыў, амэрыканцы вельмі часта прымаюць душ, увесь час нешта жуюць ды шмат глядзяць ТВ. Падчас нашае вандроўкі па амэрыканскім поўдні мы наведалі дом Элвіса Прэсьлі, рэзэрвацыю індэйцаў ды шмат якія музэі.

Праз тры тыдні накіраваліся ў Вашынгтон. Там у беларускай амбасадзе спаткаліся з



выконваючым абавязкі пасла, наведалі Нацыянальную галерыю, дзе пабачылі аўтэнтычныя творы Пікасо, Ван Гога ды іншых сусьветна вядомых мастакоў. Падчас вандроўкі ў маім багажы было некалькі нумароў «Руні», каторыя я паказваў амэрыканцам, як сымбаль, што беларусы жылі, жывуць і будуць жыць!

*Студэнт Вілен. пэд. ун.* **Яўген Валюкевіч**
*Пружаны*

# крызысу цывілізацыі

ды Беларусі, але й некампэтэнтнасьць палітычных элітаў Захаду. А трагедыя ў Косаве, наогул, зьяўляецца інтэгральным індэкатарам глябальнага крызысу цывілізацыі. Індэкатар гэты аб'яднаў рэшткі камуністычных сілаў рэжымаў Югаславіі, Расеі, Беларусі з дэмакратычнымі сіламі Эўропы й Амэрыкі ў барацьбе з прынцыпам самаарганізацыі тэхналягічнай цывілізацыі. Гэтыя сілы выкліканыя ідэалёгіямі камуністаў і дэмакратаў, каторыя не адпавядаюць прынцыпу самаарганізацыі, і прынцып гэты адмаўляе іх тым мацней, чым настойлівей чалавецтва хочыць іх прапаведаваць. Крывавы крызіс у Косава прынцыпова ня можа быць вырашаны тымі сродкамі, якімі дзейнічае сусьветная супольнасьць. Косаўскі крызіс выклікае ўзмацненьне разбуральных сілаў у Беларусі з павілічэньнем імпэрскіх амбіцыяў Расеі й падтрымкі іх Захадам, — ва ўсім сьвеце за кошт узмацненьня «барацьбы з сэпаратызмам».

Косаўскі канфлікт можа быць вырашаны толькі шляхам пераходу чалавецтва на новы ўзровень узаемаадносінаў чалавека з чалавекам, чалавека з прыродай. Гэта магчымае толькі пры пераходзе грамадства да новай ідэалёгіі, якая павінная знаходзіцца ў гармоніі з самаарганізацыяй матэрыі. Дзеля гэтага ідэалёгія павінная грунтавацца на законах, якія адлюстроўваюць розныя аспэкты прынцыпу самаарганізацыі: на тэарэме Фішара, законе энэргетычнай неэфэктоўнасьці вялікіх дзяржаваў, тэорыі сацыяльнай гармоніі, што адлюстроўвае ролю нацыі ў герархіі самаразьвіцьця. Асноўныя палажэньні такой ідэалёгіі, ідэалёгіі сацыяльнай гармоніі, маюць досыць простую ды зразумелую чалавеку форму:

**1.** Сям'я — базавае зьвяно нацыі, носьбіт і ўзнаўляльнік ейнага генафонду, галоўны захавальнік, стваральнік і спажывец нацыянальных багацьцяў.

**2.** Нацыя — базавая ячэйка тэхналягічнай цывілізацыі, ейны падмурак, разбурэньне якога вядзе да дэградацыі й разбурэньня цывілізацыі.

**3.** Гарманічнае разьвіцьцё нацыі магчымае толькі пад кіраўніцтвам сацыяльнай групы ўласьнікаў (але не чыноўнікаў!) ва ўмовах антыманапольных законаў.

**4.** Раўнапраўны саюз свабодных нацыяў (ні ў якім разе не дзяржавы народаў!) на аснове тэхналягічнай інтэграцыі (не асыміляцыі, не экспансіі!) ёсьць аснова стратэгіі дасягненьня гармоніі і ўстойлівага разьвіцьця цывілізацыі.

Ці зможа разьвіцьцё чалавецтва вярнуцца ў рэчышча законаў прыроды залежыць ад ягоных здольнасьцяў эсэнсаваць сытуацыю, у якой яно знаходзіцца.

**Валеры Арцішэўскі**

**Віленская калекцыя**

# ВОДАР ВІЛЬНІ

Заўсёды захапляюся водарам лесу, водарам возера. Часам агорне настальгія, калі згадаю пахі бабулінай хаты. Але цяпер я ў палоне гарадзкіх пахаў. А горад мой называецца Вільня.

Мой шлях на працу праходзіць каля хлебазаводу. У гэтым мейсцы я йду не сьпяшаючыся й стараюся дыхаць глыбей. Тут, у краме пры пякарні, можна купіць яшчэ гарачы хлеб. Я надзвычай люблю «Палангу», асабліва хрумсткую скарыначку. Потым, калі бохан астыне, скарыначка адыходзіць, мякчэе й робіцца ўжо ня тая. Калі б я быў пекарам, дык выпякаў бы ценькі-ценькі хлябец – каб была адна скарыначка.

Ад пякарні тут пачынаецца вуліца Францішкі Скарыны.

Пахі ёсьць рэч далікатная. Яны захоўваюцца толькі ў замкнёнай прасторы.

Пах мяса надзейна захоўвае таўсты кажушок цэпеліна. Між іншым, у Беларусі культавай стравай сталіся дранікі. А мы ж маем ня горшыя клёцкі з душамі.

Замкнёныя рэчы заўсёды набіраюцца адумысловага паху.

Прыйшоў у архіў. Прынесьлі тэчку са старымі справамі. Разьвязваю матузкі, сьцярожка дастаю рудыя аркушы, выпускаю дух, які назьбіраўся ў тэчцы за многія гады... Удыхаю дух часу.

Пах сьвежай друкарскай фарбы я палюбіў зь дзяцінства –даставаў з паштовай скрыні газэту ды адносіў бацьку.

Пах друкарскай фарбы асаблівы, калі гэта сьвежая газэта з тваім артыкулам.

Быў неяк халодны пахмуры дзень. Я стаяў на прыпынку «Спарта» й чакаў тралейбуса. Рух машынаў у гэтым мейсцы вельмі інтэнсыўны. Калі надвор'е добрае, смурод ад машынаў узьнімаецца ўгору, яго разносіць вецер. Але ў той дзень навіслыя над Вільняй хмары не давалі яму разьвеяцца. Мусіў цярпець. Раптам праз смурод прабіўся смачны пах бярозавых дроваў. Я пабачыў дым з коміна драўлянага дому. Дым зь печкі таксама ня мог прабіцца ўгору й слаўся долу. Тым часам падыйшоў мой тралейбус, але я прызастаўся й яшчэ трохі пастаяў на тым прыпынку.

Нядаўна гэты дом, на жаль, згарэў. Тое мейсца абнесьлі плотам, за якім штосьць будуюць.

Выраз «запахла порахам» да ня даўняга часу быў для мяне чыста кніжным. Цяпер перанялі моду пускаць фэервэркі на Новы Год. Перад сьвятам іх прадаюць на кожным кроку. У навагоднюю ноч, а 12-ай гадзіне, пачынаецца страляніна. Тады ўвесь горад «пахне порахам», і я «выбухаю» вясёлай думкай: Новы Год! Новае жыцьцё!



Здымак Дзяніса Раманюка

У Старым горадзе, у маляўнічых віленскіх прадмесьцях, у кватэры старых віленчукоў заўсёды пахне нейкай гісторыяй...

**Сьцяпан Дзінь-Дзілевіч**

# Беларуская апазыцыя напярэдадні Новага Году

*Працяг са старонкі 5*

тое, што хацела зрабіць разам з Ганчаром, па-другое, галоўнае тут было першы раз паказаць усяму сьвету, што беларусы не зьмірыліся з фактам узурпацыі ўлады Лукашэнкам. Паколькі Лукашэнка фактычна выбары сарваў, сьвет канчаткова ўбачыў, хто ён такі ёсьць. Я лічу, што зараз няма сэнсу падстаўляць людзей пад турмы, таму што зразумела, што ва ўмовах рэжыму ніякіх выбараў быць ня можа. Я ня думаю, што наш Вярхоўны Савет ізноў знойдзе «камікадзэ», каторы возьмецца паўтарыць прыклад Ганчара.

**— У нас, у Беларусі, пачалі зьнікаць людзі, вядомыя ўсім палітыкі...**

— Што ж, у нас усталяваўся нармальны лацінаамэрыканскі рэжым, як у Гаіці або ў Гандурасе. Мы прыйшлі да напаўфашысцкай дыктатуры лацінаамэрыканскага тыпу.

**— Каляніяльнай дыктатуры?**

— Ну, я б так не сказаў. Гэта спрэчна. Наш рэжым ня ёсьць зусім каляніяльным. Ён менавіта — лацінаамэрыканскага тыпу, бо ўсе гэтыя «Самосы» хоць і залежылі ад Амэрыкі (як Беларусь ад Расеі), аднак почасту праводзілі ўласную палітыку. І Лукашэнка ня цалкам выконвае загады з Крамля, тым больш, што і ў Крамлі шмат розных палітычных груповак. Хоць прыкметы каляніяльнага наш айчынны рэжым, безумоўна, мае.

**— Якая сёньня рэальная падтрымка Лукашэнкі насельніцтвам Беларусі, пра якую гэтак шмат трубіць афіцыйная бел. прапаганда?**

— Я скажу так. Апошнія месяцы народ рэзка памяняў адносіны да рэжыму. Бо ад каханьня да нянавісьці — адзін крок. І гэты крок зроблены. І больш таго, народ жа не такі дурны, хоць і запалоханы, канечне. Калі ў яго адкрыта на вуліцы запытацца, дык ён, бадай, будзе хваліць Лукашэнку, а дай яму сёньня выбарчы бюлетэнь, ён з задавальненьнем Лукашэнку закрэсьліць. Ня трэба думаць, што апытаньні на вуліцах скажуць вам праўду. Тыя, хто баіцца рэжыму, ніколі ня скажуць, што яны Лукашэнку ня любяць. Сёньня, на мой погляд, Лукашэнку падтрымліваюць ня больш 30 адсоткаў ад усіх катэгорыяў бел. насельніцтва, у тым ліку й вяскоўцаў.

**— Усё дамовы, якія падпіша Лукашэнка з Расеяй, будуць у будучыні няпраўнымі?**

— Так. Пра гэта кажуць і ў самой Расеі палітыкі высокага рангу: Яўлінскі, Лукін, Нямцоў. Працэс непрызнаньня нашага дыктатара бурна пайшоў і ў Расеі. Ягоны выступ у Думе вялікіх казыроў яму сярод расейскіх лібэралаў ня даў. Расейскія ж камуністы, якія Лукашэнку падтрымоўваюць, у такой вялікай колькасьці ў Думе дажываюць апошнія дні. Дый Жырыноўскі можа не набраць 5 адсоткаў — гэтыя працэнты забяруць у яго Лужкоў з Прымаковым.

**— Некалькі словаў пра дзейнасьць ТБМ...**

— Назіраю, што вельмі многа моладзі хінецца сёньня да беларушчыны. Гэта нас вельмі цешыць. У нас зараз каля 5 тыс. сяброў ТБМ, зь якіх 3 тыс. людзі да 25 гадоў. Чым болей афіцыйныя ўлады вынішчаюць усё беларускае, тым мацней супрацьдзеяньне нашай моладзі, — гэта як спружына. Почасту моладзь дзейнічае насуперак сваім настаўнікам і бацькам. Нядаўна я сустракаўся з «Маладым Фронтам» Гарадзеншчыны, дык яны пасьля гутаркі са мной ды дыскусіі амаль усе запісаліся ў ТБМ, а гэта каля 70 чалавек! Нават ахвяраваньні прынесьлі — 4 млн. бел. рублей. Я думаю што мы пераможам, бо моладзь з намі.

**— Лукашэнка вялікі папуліст. Ці ня можа адбыцца спроба Лукашэнкаўскай беларусізацыі?**

— Такое не выключанае. Успомніце «беларусізацыю» пры Бэрыі: за паўгады да сьмерці Бэрыя паспрабаваў адкруціць назад нацыянальнае пытаньне ў СССР. Тым больш, што ў Лукашэнкі сапраўдных камуністычных перакананьняў няма, ён проста трымае нос па ветры й думае толькі пра сябе ды як утрымаць уладу. Гэта ж ён у свой час уносіў у парлямант бел-чырвона-белы сьцяг наперадзі ўсіх. Ён лёгка верне яго назад, калі будзе вымагаць палітычная каньюктура.

**— Нацыяналізм уратуе сьвет?**

— Так. Тым больш, што гісторыя Эўропы XIX-XX ст.ст. гэта шлях ад імпэрыяў да монанацыянальных краінаў. Гэта галоўны шлях гістарычнага разьвіцьця, так яшчэ Бісмарк казаў. Хто б мог падумаць напачатку мінулага стагодзьдзя, што столькі краінаў будзе ў Эўропе?

*Гутарыў* **А. М.**

## Умовы падпіскі

**Чытачы далёкага замежжа** могуць падпісацца, даслаўшы на рэдакцыю імянны чэк сакратару газэты Паўлу Саўчанку (*Pavel Savcenko*). Кошт падпіскі на год – **$20**. Паведамляем гэтаксама наш валютны рахунак:

***Nr. 91756 AB banko HERMIS Vilniaus filialas, kodas 260101730***

**Жыхары Літвы** могуць падпісацца ў сакратара газэты Паўла Саўчанкі (*т: 61 62 24*) або ў кожным паштовым аддзяленьні Літвы. Падпісны індэкс газэты – **0187**. Кошт падпіскі на год –**12 Lt.**

**Падпішчыкам у Беларусі** паведамім адрас у Горадні ў наступным нумары. Кошт падпіскі на год – сума ў беларускіх рублях эквівалентная **$ 4** (паводле дзяржаўнага курсу).

**Падпішчыкам у Расеі** паведамляем адрас у Санкт-Пецярбурзе: *191028 Санкт-Петербург, ул. Сикейроса 6-1-364*, Ковалюк Евгении Трафимовне. Кошт падпіскі на год – сума ў расейскіх рублях эквівалентная **$ 5**.

**Падпішчыкам у Польшчы** паведамляем адрас у Беластоку: *Wieslaw Choruzy, Porosly 18 «а», 16-006 Barszczewo*. Кошт падпіскі на год – сума ў злотых эквівалентная **$8**.

*Адрас для допісаў:*
***«Рунь»***
***2001 Vilnius, a/d 1021***
***Lithuania***

Шчыра дзякуем за ахвяраваньні

| | |
|---|---|
| **М. Грэбеню** з Амэрыкі | $40 |
| **Р. Галяк** з Амэрыкі | $20 |

Меркаваньні рэдакцыі не заўсёды супадаюць з пазыцыяй аўтараў

РУНЬ газэта беларусаў Літвы
заснавальнік
Таварыства беларускай культуры ў Літве
выдаўцы
Віленскі цэнтар грамадзкіх ініцыятываў «Дэмакратыя дзеля Беларусі»
Таварыства беларускай культуры ў Літве
адрас рэдакцыі
*Žygimantų 12-3, 2001 Vilnius, Lithuania*
тэлефоны
*(+ 370 2) 42 38 02; 61 62 24*
**Алег Мінкін** — рэдактар
**Павал Саўчанка** — сакратар
**Алег Аблажэй** — мастацкі аддзел
**Сяргей Вітушка** — аддзел гісторыі
**Андрэй Цярэньцеў** — аддзел рэкламы
друк АВ «Spauda»
наклад 1000
*ISNN* **1392-7671**